

# ЛІТВА, МАЯ АЙЧЫНА?

Гэтыя словы Адама Міцкевіча ведае і памятае бадай кожны паляк і многія беларусы. Я сам упершыню пазнаёміўся з „Панам Тадэвушам" у школьныя гады, але прачытаў твор даволі неахвоча, як усё, што робіцца паводле загаду, бо гэта быў абавязковы элемент школьнай праграмы. Тады не было і не магло быць у падлетка таго паглыбленага разумення твора, якое з'явілася пасля, разам з накапленнем уласнага жыццёвага досведу, у тым ліку – эміграцкага. Аднак з прычыны сваёй маляўнічасці і меладычнасці, малітоўна-пафасны заклік – інвакацыя, а таксама шэраг фрагментаў твора, моцна ўрэзаліся ў памяць, і нават зараз, пасля больш як паўстагоддзя, магу іх свабодна дэкламаваць. „Пан Тадэвуш", першапачаткова прыняты без асаблівага энтузіязму, толькі з часам стаў для палякаў народнай эпапеяй, і зараз лічыцца шэдэўрам літаратуры і культуры, культавым творам Адама Міцкевіча, дэкларацыяй глыбокага патрыятызму. На ім выхоўваюцца чарговыя пакаленні палякаў. Літаратурныя крытыкі лічаць, што паэма „Пан Тадэвуш" аказалася звышчасовай: яна дасканала адлюстроўвае нацыянальны характар палякаў, якія поўныя супярэчнасцяў: ад сварлівасці і крайняга эгаізму, да палымянага, ахвярнага патрыятызму. Важна таксама адзначыць, што 17 гадоў таму эпапею Міцкевіча творча разгарнуў у выглядзе кінафільма знакаміты польскі рэжысёр – Анджэй Вайда. Я паглядзеў фільм жывучы таксама па-за роднымі мясцінамі, хаця недалёка, у чэшскай Празе.

## Пачынаем даражыць калі страцім

Эпапея „Пан Тадэвуш", гэта непасрэднае наступства эміграцыі. Ёсць усе падставы меркаваць, што паэт вельмі дрэнна пачуваў сябе на выгнанні ў Францыі. Эміграцыя яму абрыдла. Ён не любіў Парыжа, не зважаючы на прыгажосць горада. Таму больш чым бягучым жыццём ён жыў успамінамі, найперш з маладосці. Як любіў паўтараць Сакрат Яновіч, „каб добра пісаць, трэба адчуваць сябе няшчасным"; і Міцкевіч якраз адчуваў сябе нешчаслівым. Ён быў эмігрантам і палітычным уцекачом, але яго не вярнулі з мяжы назад! (Хай пра гэта памятаюць тыя палякі, у якіх мільёны суайчыннікаў рассеяных па ўсім свеце, але самі яны не хочуць прыняць да сябе нават адной сям'і ўцекачоў!) Праўда гэта ці не, што няшчасце – натхняе, але калі б Міцкевіч заставаўся на Радзіме, дык можна з упэўненасцю сказаць, што мабыць не было б гэтага твора наагул. У пралогу эпапеі Міцкевіч пісаў абсалютна шчыра:

„Літва! Ты, як здароўе ў нас, мая Айчына!...
Што варта ты, ацэніць той належным чынам,
Хто цябе ўтраціў. Вось красу тваю жывую,
Зноў бачу і апісваю, бо скрозь сумую".

Пішучы „Пана Тадэвуша" на „парыжскім бруку", сярод будынкаў і вуліц вялізнага горада, Міцкевіч не бачыў родных краявідаў ужо 10 гадоў. Ён сумаваў за роднымі мясцінамі і кожны фрагмент таго роднага краявіду станавіўся для яго больш каштоўным чым тады, калі там жыў і выхоўваўся. Цудоўныя, жывыя колеры, якімі вымалёўваў Айчыну, выплывалі з вялікай любові і шматгадовай разлукі з Бацькаўшчынай.

За сваю антыўрадавую палітычную дзейнасць Адам Міцкевіч правёў 5 гадоў у ссылцы, аднак не ў Сібіры, але ў Санкт-Пецярбургу, Маскве, Адэсе і на Крыме. Пакінуў Расійскую Імперыю у 1829 годзе і правёў рэшту свайго жыцця ў выгнанні, першапачаткова асеўшы ў Рыме, а затым перабраўшыся ў Парыж. У матэрыяльным сэнсе жыў адносна няблага, будучы выкладчыкам славянскай літаратуры ў Калеж-дэ-Франс, ды „не адным хлебам жыве чалавек...". Будучы ў Парыжы, у 1832-34 гадах ён і напісаў сваю эпапею „Пан Тадэвуш". Якраз поўнай паразай завяршылася, ужо другое пасля паўстання на чале з Тадэвушам Касцюшкам, Лістападаўскае паўстанне. Яно ставіла перад сабою за мэту аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772-га года. Атрымалася ўсё наадварот: была скасавана нават пэўная аўтаномія таго невялічкага „Польскага каралеўства" ў рамках Расійскай Імперыі. У рамках рэпрэсій быў зачынены Віленскі ўніверсітэт, у якім вучыўся Адам Міцкевіч. За мяжу ўцяклі не толькі многія ўдзельнікі паўстання, пазбаўленыя

маёнткаў арыстакраты, але і тыя, каму пагражалі рэпрэсіі. Неўзабаве была скасавана Берасцейская вунія, было адменена дзеянне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588-га года, і пачалася дэпаланізацыя і русіфікацыя тае паланізаванай „Літвы". Будучы ў Парыжы Міцкевіч чуў і бачыў бясконцую грызню, гарачыя дыскусіі вакол мэтазгоднасці паўстання і ўзаемныя абвінавачанні. Яму хацелася падбадзёрыць выгнаннікаў, падтрымаць патрыятычныя пачуцці, аб'яднаць эмігрантаў і народ вакол ідэі далейшай барацьбы за незалежнасць. Варта звярнуць увагу на гэтую важную акалічнасць. У канцы паэмы, маючы на ўвазе страчаныя рэшткі дзяржаўнасці, Міцкевіч атоесамлівае сябе з Польшчай і палякамі.

„Мы ў свеце, як няпрошаныя госці,
У будучым, і ў тым, што на пагосце,
Адзіны край такі існуе ў Бога,
Дзе шчасця для паляка ёсць нямнога:
Дзяцінства край! Ён прад вачыма ўстане,
Святы і чысты, як першае каханне".

Інакш кажучы, калі паэт мае на ўвазе незалежніцкія, вызвольныя памкненні, ён кажа пра Польшчу і палякаў да якіх далучае і сябе. Міцкевіч, пра якога з націскам гаворыцца, што ён ніколі не пабываў ні ў Варшаве, ні ў Кракаве, адчуваў сябе грамадзянінам і спадкаемцам звыш 400-гадовай традыцыі шматнацыянальнай Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Беларуска-літоўская шляхта, з якой паходзіў паэт, даўно была паланізаванай і лаяльнай у дачыненні да Кароны-Польшчы, аднак захоўвала пачуццё гонару з адметнай гісторыі тае „Літвы".

„Лёс дзіўны Польшчы і Літвы.
Яны ў пакуце, і ў шчасці так жылі,
Як з жонкай муж – сям'ёю!"
– кажа ў паэме Гервазы.

## „Малая Айчына"

Аднак у асноўным, будучы ў эміграцыі, Адам Міцкевіч сумаваў за сваёй Наваградчынай і марыў аб вяртанні на сваю „малую Айчыну". У „Пану Тадэвушу" ён ідэалізуе і сакралізуе гэтую страчаную Радзіму і ўжо ў пралогу вымалёўвае яе прыгажосць. Паэт прадстаўляе Сапліцова як „аркадыю" – краіну вечнага шчасця, дзе няма турботаў і праблемаў, а жыццё бяжыць сваім спакойным, упарадкаваным рытмам. „Малая Айчына", гэта месца асабліва важнае, з якім звязаныя галоўныя, жыццёвыя ўспаміны. Гэта можа быць

краіна дзяцінства, дзе чалавек рос і фармаваўся, пазнаваў свет і даспяваў. „Малая Айчына", можа займаць большую альбо меншую прастору. Яна не мае дакладных межаў, затое мае сваю адметнасць. Гэтую адметнасць ствараюць не толькі месцы, але і людзі са сваёй культурай, гісторыяй, традыцыямі і вераваннямі. Гэтыя месцы, асабліва блізкія сэрцу, адыгрываюць міфатворчую ролю, спрыяюць ідэалізацыі ўспамінаў і ўзбуджаюць настальгію. „Малыя радзімы" з'яўляюцца моцнай інспірацыяй для творчых людзей. Яны дазваляюць адарвацца ад зменлівай, няпэўнай будзёншчыны ў пошуках даўняга шчасця, прастаты, высокай маралі і тоеснасці: нацыянальнай, этнічнай, рэгіянальнай і грамадзянскай. Міцкевіч моліцца да Маці Божай:

„Як Ты ў жыццё мяне калісь вярнула цудам...
Так нас вярні з выгнання на зямлю Айчыны,
Перанясі душу маю адсюль, з чужыны,
Да ўзгоркаў тых лясных, да тых лугоў зялёных,
Над сінім Нёманам раскінутых, прымглёных,
Да тых палёў, размаляваных пад блакітам,
Пшаніцай залатой ды серабрыстым жытам,
Тых, дзе свірэпка, як бурштын, у грэчцы белай,
Дзе рдзее дзятлавінка дзеўчынкай нясмелай,
А ўсё абведзена, бы стужкаю, мяжою,
З ігрушкай-дзічкай, што стаіць там сіратою...".

Сам Міцкевіч прызнаў, што ў „Пану Тадэвушу" ён прадставіў ідэалізаваную, міфічную краіну, якой у такім выглядзе ніколі не было. Але ж, з другога боку, не падлягае сумневу, што гэтак маляўніча і пераканаўча мог Міцкевіч прадставіць прыроду і рэаліі жыцця месцаў, якія па-сапраўднаму любіў, гэта значыць, роднай Наваградчыны. У паэме бачым дакладныя інтэр'еры шляхецкага двара і замка, каларытныя індывідуальныя і групавыя партрэты. З вялікай любоўю да свайго народа Міцкевіч паказвае прывабнасці і слабасці шляхецкага жыцця, гаворыць аб непазбежнай змене пакаленняў, аб неабходнасці аднаўлення маральнага аблічча нацыі.

Адам Міцкевіч слушна лічыцца заснавальнікам новага кірунку ў польскай літаратуры – рамантызму. Ён з вялікай увагай паглыбіўся ў народнае сэрца, адлюстраваў жывы дух народнага светаразумення. Натуральнасць сялянскага побыту, вера ў таямнічыя сілы і прыкметы фармавалі ў народзе высокі маральны патэнцыял, рабілі патрыярхальна-кансерватыўную традыцыю эталонам паводзін. Такі аспект паэт лічыў важнейшым за сацыяльна-пабытавую адметнасць беларускага сялянства. Вобраз русалкі – адзін з самых загадкавых у народнай дэманалогіі. Ужо сама па сабе сувязь русалкі з вадой,

лесам і полем, прыналежнасць, з аднаго боку, да свету памерлых, а з другога – да духаў прыроды, няпэўнасць у адносінах да дабра і ліха, утвараюць вакол гэтай істоты своеасаблівую аўру звышнатуральнасці, якая не магла не прывабіць таленавітага літаратара.

## Каму належыць Міцкевіч?

Да выдатных людзей ахвоча прызнаюцца і лічаць іх сваімі ўсе, абгрунтавана альбо і цалкам беспадстаўна. Шмат гаворыцца пра натхняльнае, вялікае значэнне Міцкевіча для Беларусі, Літвы, Украіны, балканскіх краін, а таксама для татарскай і жыдоўскай культур. Гэтая апошняя не магла не паўплываць на паэта, калі ён вучыўся ў Вільні. Трэба памятаць, што тагачасная Вільня ўяўляла сабою своеасаблівы культурны кацёл, дзе варыліся: жыдоўства, беларушчына, пальшчызна – пад пільным вокам нядаўна прыбылай расейскай адміністрацыі. Усё ж, у першую чаргу „сваім", у большай або меншай ступені, яго лічаць палякі, беларусы і літоўцы.

У шэрагу публікацыяў і беларускіх, і літоўскіх бачна, што існуе спакуса калі не перацягнуць Міцкевіча на свой бок, дык, прынамсі, падкрэсліць у ім нешта сваё. Па-мойму, найменшыя падставы лічыць Міцкевіча сваім маюць літоўцы, бо словы „Літва, мая Айчына" і кароткі час, калі паэт жыў у Коўне – нічога не значаць. Вядомы літоўскі празаік – Марыюс Івашкевічус напісаў ясна і выразна: „Ваш Пан, Ваш Тадэвуш". Ён нават мае прэтэнзіі да паэта, што той прадставіў „Літву", ды забыўся прадставіць літоўцаў. Па-мойму, ён крыўдуе дарэмна. У пачатку XIX стагоддзя ля Наваградка не было жамойтаў, этнічных літоўцаў. Сяляне былі беларусамі. Гэта іхны фальклор: абрады, звычаі, мову, вераванні і традыцыі знайшлі адлюстраванне ў творах Міцкевіча і філаматаў. „Літву" і прыметнік „літоўскі" паэт з поўным перакананнем адрозніваў ад „жмудзка-літоўскай" мовы, культуры і этнасу. Затое дырэктар музея Адама Міцкевіча ў Вільні – Рымантас Шальна без аніякай крыўды кажа: „Я вельмі люблю Міцкевіча, але я не назваў бы яго „польскім літоўцам". Думаю, што на якой мове чалавек піша, такую і нацыянальнасць выбірае... Не варта паглыбляцца ў розныя генетычныя нюансы, адкуль паходзіў, кім быў, бо некаторыя кажуць, што меў ён і трохі жыдоўскай крыві... Для нас – гэта неістотнае". Рымантас Шальна прызнае, што Міцкевіч разбудзіў у літоўцаў патрыятызм, натхніў літоўскіх літаратараў, навучыў павагі да сваёй Радзімы, але быў найперш польскім паэтам.

Тым не менш, нацыянальная свядомасць і патрыятызм Міцкевіча – пытанне неадназначнае. Быў грамадзянінам Расійскай Імперыі. Безумоўна, ведаў

расійскую мову, аднак не жадаў на ёй ні пісаць, ні размаўляць, бо проста шчыра ненавідзеў усё, што звязанае з акупантамі. Тым не меней, калі падаўся ў эміграцыю, мяркую, што ён не мог карыстацца ніякім іншым пашпартам, як толькі расійскім. У моўным сэнсе, належаў да польскага этнасу, паколькі шляхта ужо даўно была апалячаная і акаталічаная. Аднак Міцкевіча нельга назваць і „стопрацэнтным палякам" і сам ён сябе такім не называў. Ён найперш прызнаваўся ў любові да тае зямлі, дзе нарадзіўся і вырас. Дзе ўбачыў і адчуў прыгажосць навакольнага свету. Дзе далучыўся да народнай культуры: святаў, звычаяў, абрадаў, легенд, песняў і казак. Усё гэта ён творча скарыстаў у прыватнасці ў сваіх баладах, а таксама ў п'есе „Дзяды". Беларускае, сялянскае атачэнне Міцкевіч ведаў хаця б з тае прычыны, што бываў на кірмашах і вяселлях. У сваіх артыкулах для „Польскага Пілігрыма" (Pielgrzym Polski) ён называў гэты народ, з якім у значнай ступені сябе атаясамліваў – беларусамі.

Гэтае пытанне: „каму належыць Міцкевіч?", я задаваў некалькім вядомым беларусам. Уладзімір Мархель, літаратуразнавец, паэт і перакладчык заявіў: „Само прысвойванне Міцкевіча не дасць ніякае карысці. Гэта – правінцыйная пазіцыя. Ён – усіхны, калі так сур'ёзна глядзець. Проста наша задача – успрыняць, усвядоміць Міцкевіча як свайго. Падчас, калі палякі і літоўцы ўсведамляюць канкрэтна, то беларусы яшчэ недастаткова". Уладзімір Мархель з'яўляецца аўтарам кнігі выдадзенай у 2003 годзе: „Шлях да Беларусі: Адам Міцкевіч – прадвеснік адраджэння беларускай літаратуры".

Даследчыкі творчасці Міцкевіча адназначна сцвярджаюць, што на выхаванне будучага паэта выдатна паўплывалі: парабак Блажэй, па мянушцы „Уліс", які расказваў маламу Адаму розныя беларускія казкі. Таксама служанка Гансеўская, якая ведала шмат народных песняў і любіла спяваць, спявала іх у прысутнасці Адама. Вось такія, простыя, чужыя людзі міжвольна, як гэта было і ў выпадку Аляксандра Пушкіна, прышчапілі будучаму паэту любоў да фальклору. Дарэчы, у адным класе з Міцкевічам вучыўся Ян Чачот, будучы беларускі паэт і фальларыст. Светапогляд іх абодвух складваўся пад уплывам навакольнага асяроддзя. Такім чынам Адам Міцкевіч напэўна з маленства ведаў беларускую мову тамтэйшых сялян. Паводле даследчыка творчасці Міцкевіча – Алега Лойкі, магчыма продкі паэта былі беларусамі, што было б цалкам натуральным.

## Без Беларусі не было б Міцкевіча

Дарэчы, Алег Лойка лічыць, што „без Беларусі не было б Міцкевіча, альбо ён быў бы кімсьці іншым, хутчэй за ўсё – кімсьці меншым". „Беларусь – месца нараджэння Міцкевіча. Наваградчына – зямля, на якой ён рос, гадаваўся. І першая вучоба – у наваградскіх дамініканцаў была на зямлі беларускай, і першы раман XIX стагоддзя пачаўся над беларускай Свіцяззю... Мы не беларусізуем Міцкевіча, а проста сцвярджаем яго прыналежнасць Беларусі ўвогуле, беларускаму народу, беларускай культуры, літаратуры і гісторыі... „Ліцьвінізм" – гістарычная фаза беларускасці, мутацыя беларускасці пад уплывам апалячвання. Ступень беларускасці ў яе спецыфічнай незвычайнасці". Алег Лойка пісаў: „Вялікі польскі паэт застаўся ў маёй свядомасці не толькі як стваральнік шэдэўраў, але і як зямляк, зачараваны Белай Руссю, ейным фальклорам, душой крынічна-чыстай. Прастора думак і пачуццяў паэта міжвольна зліваецца з ваколіцамі майго дзяцінства, напаўняецца айчыннымі водгукамі, рэхам, песняй і матчынай казкай. Гэта тут, у нас, здзейсніўся цуд паэзіі Міцкевіча".
На пытанне: кім для яго з'яўляецца Адам Міцкевіч, выдатны беларускі паэт Рыгор Барадулін адказаў: „Для мяне Міцкевіч – постаць унікальная... Ён для мяне зяўляецца пісьменьнікам, народжаным беларускай зямлёй. Ён спаліў свае першыя вершы, напісаныя на беларускай мове. Можа я трошкі перабольшваю, але скажу: Міцкевіч – беларускі паэт, хаця ягоныя вершы напісаныя па-польску. Ягонае светаадчуванне, ягонае мысленне з'яўляюцца беларускімі... Я вяртаўся да яго творчасці шмат разоў, таму што яе нельга да канца спасцігнуць з першага разу. У ягонай лірыцы і баладах ёсць душэўнасць, замілаванне роднай зямлёй і яе прыродай. Калі чытаеш Міцкевіча, то адчуваеш сябе беларусам". Пранікнёна ахарактарызаваў асобу Міцкевіча Ніл Гілевіч у сваім вершы „Санет Адаму Міцкевічу": „І ўсё такі лёс аддзячыў нам, няйначай: Так, волатам ты ўзрос на ніве нашай, Каб славе Польшчы паслужыць пяром, Але, вялікі і ў любові і ў скрусе, Ты стаў і вечнай славай Беларусі, Яе красы чароўным песняром".

## Дык чаму Міцкевіч не пісаў па-беларуску?

Тое, што Міцкевіч ведаў і беларускую, і расійскую мовы – не падлягае сумневу. „З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гарадзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рысаў. У іх песнях і казках ёсць усё... „Літоўскі Статут"

напісаны іх мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зmененай", – такую ацэнку вартасцям беларускай мовы даваў Адам Міцкевіч, працуючы выкладчыкам каралеўскага ўнівэрсітэта Калеж-дэ-Франс у Парыжы. Даследчыкі яго творчасці знайшлі не менш за 30 беларусізмаў у самім „Пану Тадэвушу". Дырэктар Дома-музэя Адама Міцкевіча ў Наваградку Мікола Гайба кажа, што Міцкевіча папракалі у „псаванні" польскай мовы тымі „правінцыялізмамі", аднак паэт адказваў, што ўжывае іх свядома і мэтанакіравана.

Калі Міцкевіч скарыстоўваў мясцовую гаворку, калі ведаў мову простага народа, калі любіў сваю „Малую Айчыну", дык чаму ён не пісаў па-беларуску? Тое, што нібыта ў Швейцарыі быў знойдзены верш Міцкевіча па-беларуску, гэта ўсяго толькі здагадка. Тое, што беларускія вершы ён спаліў, гэта таксама не факт. Па словах Міколы Гайбы, магчыма, пры больш спрыяльных умовах ён пісаў бы творы і па-беларуску, але не было яшчэ ні беларускага чытача, ні беларускага выдаўца. У пачатку XIX стагоддзя амаль усё адукаванае грамадства ў Беларусі карысталася польскай мовай. На ёй вялося выкладанне ў павятовых гімназіях і кляштарных вучылішчах. На ёй навучалі нават сялянскіх дзяцей у парафіяльных школах. У 1810-1820 гады значным цэнтрам польскай адукацыі ў Беларусі з'яўлялася Полацкая езуіцкая акадэмія, са сцен якой выйшлі многія вучоныя, пісьменнікі, мастакі. Становішча змянілася толькі ў 1836 годзе, калі царскім загадам было забаронена выкладанне на польскай мове ў Віцебскай і Магілёўскай губернях. У астатніх губернях польскае навучанне захоўвалася да паўстання 1863 года. Выкладчыкі звычайна карысталіся традыцыйнымі праграмамі, складзенымі ў канцы XVIII стагоддзя Адукацыйнай камісіяй.

Трэба таксама прызнаць, што само пісанне па-беларуску ў той час было яшчэ вялікім выклікам, хутчэй змаганнем, чым літаратурнай творчасцю. Можа маюць рацыю тыя, якія кажуць, што паэт такога маштабу як Міцкевіч не здолеў бы рэалізавацца па-беларуску. Адмыслоўцы згодна прызнаюць, што ў сваіх лістах Міцкевіч шмат разоў пісаў „Беларусь", „беларускі", але афіцыйна, назвы такой – „Беларусь, беларускі" – у сучасным значэнні тады яшчэ не было. Паняцце „Беларусь" адносілася пераважна да Віцебскай, Магілёўскай і ўсходняй часткі Мінскай губерняў, а пад „Літвой" разумеліся і населеныя беларусамі Гарадзенская, Мінская і частка Віленскай губерняў. Нашмат пазней іх адрознасць сфармулюе і пусціць ва ўжытак Францішак Багушэвіч. Не было і беларускага правапісу. Апроч таго вядома, што і ў XVIII, і ў XIX стагоддзях самая адукаваная, культурная, інтэлігентная частка насельніцтва, што пражывала на тэрыторыі сучаснай Беларусі, лічыла

сябе ці то палякамі, ці то рускімі, і творы таленавітых беларусаў часта станавіліся здабыткамі якраз польскай культуры.

## Чаму Міцкевіч не згадвае беларусаў?

У эпілогу „Пана Тадэвуша" Міцкевіч пісаў:

„О, дачакацца б мне такой уцехі,
Каб кнігі гэтыя прыйшлі пад стрэхі,
І каб, кудзелю прадучы, сялянкі,
Калі закончаць любыя спяванкі,
Пра дзеўчыну, якая грацы любіла,
І цераз скрыпку гусак пагубіла,
Пра сірату прыгожую, як зоры,
Што гусак гнала ў спозненую пору,
Каб кнігі простыя мае, як гукі
Іх песняў, узялі сялянкі ў рукі!"

Калі Міцкевіч марыў, каб яго кнігі трапілі „пад сялянскія стрэхі", дык чаму ў яго паэме не знайшлося месца для тых сялян-беларусаў? Думаю, што па той самай прычыне, што і няма там літоўцаў-жамойтаў, няма татараў, хаця яны жылі ў Наваградку і мелі сваю мячэць. Акрамя вайскоўцаў, няма там і расейцаў, хаця павінны быць хаця б царскія чыноўнікі. Ёсць толькі жыд – Янкель, прадстаўлены ў надзвычай станоўчым святле, як чалавек таленавіты і нават – польскі патрыёт. Гэты разумны жыд заклікаў сварлівую шляхту да згоды, прынамсі ў нацыянальных пытаннях. Паказваючы Янкеля як вернага сваёй традыцыі жыда і адначасова польскага патрыёта, Міцкевіч не прамінуў падкрэсліць даўнюю загану многіх палякаў: антысемітызм. Для прыкладу, ключнік Гервазы зняважліва ставіўся да парадаў Янкеля. Факт, што ў асобе Янкеля Міцкевіч гэтак прыгожа прадставіў жыдоў, затое абмінуў іншыя этнасы: хаця б татараў, не кажучы пра беларусаў-сялян, гэта для мяне загадка. Магчыма, будучы ў вымушанай эміграцыі, Міцкевіч узгадаў жыдоў як вандроўны народ, які спакон вякоў жыве ў выгнанні? Можа паэт адчуваў да жыдоў сімпатыю, ці нават захапленне, што яны, не маючы сваёй пастаяннай Радзімы, умеюць прыстасавацца да любых умоваў? Можа, сапраўды, у Міцкевіча была частка жыдоўскай крыві? Усё гэта здагадкі. У любым выпадку, што тычыцца беларусаў, дык у прадмове да расійскага выдання „Пана Тадэвуша" і лаўрэат Нобелеўскай прэміі Чэслаў Мілаш задаваўся тым жа пытаннем: „Чаму сярод герояў паэмы няма сялянаў? На якой мове яны размаўлялі?".

Па-мойму, Міцкевіч напісаў што хацеў і як хацеў! Ён і назваў свой твор „Шляхоцкая гісторыя з 1811 – 1812 гадоў у дванаццаці быліцах вершам". Міцкевіч адрасаваў сваю эпапею не беларускаму, але польскаму грамадству. Таму ён і прадставіў шляхецкае, а не сялянскае або іншае саслоўе, тое, якое ў найбольшай ступені ўвасабляла патрыятызм і вернасць традыцыі ў гістарычны напалеонаўскі перыяд – час надзеі на вызваленне. Паэт выразна сябе пазыцыянаваў як патрыёта і спадкаемца ўжо неіснуючага як дзяржава Вялікага Княства Літоўскага. Дарэчы, адной з першых сталіц, адміністрацыйных цэнтраў Княства быў якраз Наваградак.
Тут мне прыгадваецца эпізод з чэрвеня 2003 года. Тады Сакрат Яновіч атрымаў узнагароду імя Анджэя Дравіча. Сябра журы, адзін з найбольш выбітных польскіх інтэлектуалаў і грамадскіх дзеячаў Яцэк Курань, у прывітальным лісце патлумачыў выбар тадышняга лаўрэата наступным чынам: „Я веру, што творчасць пісьменніка, паэта, публіцыста і выдаўца Сакрата Яновіча мае для самасвядомасьці сучасных беларусаў, а таксама для справы збліжэння беларусаў і палякаў, вялізнае значэнне. Заўважу, што на беларуска-польскім памежжы нараджаліся і нараджаюцца шмат талентаў. Узгадаю Адама Міцкевіча, для якога беларускія народныя традыцыі былі надзвычайна важныя. Пачынаючы „Пана Тадэвуша" словамі „Літва, айчына мая", ён пісаў пра ўсё Вялікае Княства Літоўскае – дзяржаву, дзе канцылярыя карысталася беларускай мовай. Можна смела сказаць, што колішняе ВКЛ было чымсьці накшталт той аб'яднанай Еўропы, пра якую мы цяпер марым – Еўропы многіх культур і народаў" – гаварыў яшчэ да ўступлення Польшчы у Еўразвяз Яцэк Курань.

## Плюсы шматкультурнасці

Такой „малой Еўропай многіх культур і народаў" было і Вялікае Княства Літоўскае. Некалі гэта была вялізная і магутная, шматэтнічная і шматкультурная дзяржава. Яе насялялі, паводле сучаснай тэрміналогіі, беларусы, украінцы, літоўцы, палякі, жыды, татары. Гэта была дзяржава, дзе даўжэйшы час жылі паганцы, побач з праваслаўнымі, каталікамі, пратэстантамі, іудзеямі і мусульманамі. Сярод розных моваў працяглы час дамінавала старабеларуская мова, аднак паступова яе выцяснялі лацінская і польская мовы. Утварэнне федэратыўнай дзяржавы – Рэчы Паспалітай, у выніку аб'яднання ВКЛ з Польшчай (Люблінская унія, 1569), хоць і з захаваннем на пачатку юрыдычнай роўнасці абедзвюх дзяржаў, прывяло да павелічэння польскага палітычнага і культурнага ўплыву. Валодаючы ўнутрыпалітычнай

ініцыятывай, Польшча пачала ажыццяўляць вялікадзяржаўную палітыку ў адносінах да ВКЛ. Меншая ва ўсіх сэнсах Карона падпарадкавала большага, усходняга партнёра пашыраючы на яго каталіцызм, польскую мову і культуру. Многія палякі нават не здагадваюцца, што такія магнацкія і шляхецкія роды як Радзівілы, Сапегі, Патоцкія, Чартарыскія, Вішнявецкія, Тышкевічы і многія іншыя некалі былі літоўска-беларускімі баярамі і шляхцічамі. Міцкевіч быў апалячаным нашчадкам Вялікага Княства Літоўскага. Аднак ён таксама з'яўляецца прыкладам таго, наколькі гэтая разнастайная палітра была тым спрыяльным грунтам для развіцця духоўнай і матэрыяльнай культуры. Шматкультурнасць і шматмоўнасць гэта багацце краіны. Рэч Паспалітая была наймацнейшай, калі яна была федэратыўнай дзяржавай. (Аб гэтым ізноў жа павінны памятаць тыя, хто наймацней выкрыквае: „Польшча для палякаў"!)

## Беларусь – Радзіма знакамітасцей

Некалі Юзэф Пілсудскі выказаў крылатую фразу: „Польшча бы той абаранак. Усё, што найлепшае – па баках, (на „крэсах") а ў сярэдзіне – пустата". Я сам, пачынаючы са школьных гадоў, задаваўся пытаннем: чаму самыя слаўныя, вялікія палякі нараджаліся і жылі не ў цэнтральнай Польшчы, а чамусьці – на Усходзе? Уручаючы Сакрату Яновічу узнагароду імя Дравіча прэзідэнт Квасьнеўскі падкрэсліў, што беларуская зямля дала Польшчы такіх людзей як Міцкевіч і Касцюшка. Але ж, не толькі іх!
У канцы 2016 года, навукоўцы Тэхналагічнага Інстытута з Масачусэтс (ЗША) стварылі базу „сусветна вядомых людзей у гісторыі". Сярод самых знакавых асобаў у сусветнай гісторыі 32 чалавекі паходзяць з Беларусі. Сярод іх – першае месца займае якраз Адам Міцкевіч. Аднак акрамя яго Беларусь і беларуская культура далі свету выдатных навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў, мастакоў, і тых, якія праслылі ў розных галінах жыцця, узбагачаючы культуру іншых краін. З Беларусі паходзілі 18 людзей, якія пакінулі выразны след, у прыватнасці, у гісторыі Ізраіля і адначасова – усяго чалавецтва: Марк Шагал, Шымон Перэс, Менахем Бегін, першы прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман, былы кіраўнік урада Ізраіля Іцхак Шамір. Беларус з Гомельскай вобласці Андрэй Грамыка 28 гадоў узначальваў МЗС СССР. Першая касманаўтка Валянціна Церашкова была ўраджэнкай Беларусі. Мабыць у найбольшай ступені беларуская зямля ўзбагаціла польскую культуру даючы ёй: караля Станіслава Панятоўскага, затым Тадэвуша Касцюшку, пісьменнікаў: Юльяна Урсына Нямцэвіча, Адама Нарушэвіча,

Францішка Карпінскага, Юзэфа Крашэўскага, Рышарда Капусцінскага, бацьку польскага тэатра Францішка Багамольца, кампазітараў Станіслава Манюшку і Міхала Агінскага. Адам Мальдзіс у сваёй кніжцы „Творчае пабрацімства – беларуска-польскія літаратурныя ўзаемасувязі” (1966) называе таксама прыклады палякаў, якія станоўча паўплывалі на беларускую культуру. Яны сапраўды, у значнай ступені, стаяць ля вытокаў беларускай нацыянальнай літаратуры. У першай палове XIX стагоддзя польскія вучоныя пачалі сістэматычна даследаваць мінулае беларускага народа, яго мову, фальклор, літаратуру. Раней за ўсіх, бадай, загаварыў аб адметнасці Беларусі і беларускай мовы вядомы лінгвіст, складальнік польскага слоўніка – Самуіл Ліндэ.

Усё ж мяркую, што Беларусь больш дала свету, і найперш суседзям, чым яна ад іх атрымала. Яна раздарыла свае таленты хутчэй міжвольна і ў выніку аб'ектыўных абставінаў, чым у прыліве шчодрасці. Стагоддзямі не маючы сваёй дзяржавы, беларусы працавалі на карысць усё новых гаспадароў. Не маючы магчымасці паслужыць свайму народу, не маючы нават права народам звацца, яны раздалі свае найвялікшыя скарбы іншым краінам і народам. У выніку і атрымалася тое „Літва, мая Айчына” заміж „Беларусь, мая Айчына”. Хто разумны, той ведае – чаму гэтак здарылася.

*Кастусь* Бандарук
Васількаў, ліпень 2017





# LITWO, OJCZYZNO MOJA?

Te słowa Adama Mickiewicza zna bodaj każdy Polak oraz wielu Białorusinów. Ja osobiście, po raz pierwszy przeczytałem „Pana Tadeusza" w latach szkolnych; przeczytałem utwór dość niechętnie, jak wszystko, co czyni się według zarządzenia, bo to była obowiązkowa lektura w programie szkolnym. Wówczas, u mnie jako nastolatka, nie było i nie mogło być jakiejś głębszej refleksji nad utworem. Przyszła ona znacznie później, wraz z nabyciem własnego doświadczenia życiowego, włącznie z emigracją. Jednak z powodu bogactwa języka, rytmu, rymów i melodyki, modlitewno-patetyczne zawołanie – inwokacja, a także wiele fragmentów utworu, głęboko zapadły w pamięć; do tego stopnia, że nawet dziś po ponad półwieczu – mogę je bezbłędnie wyrecytować. „Pan Tadeusz", początkowo przyjęty przez krytyków i czytelników bez szczególnego entuzjazmu, dopiero z czasem stał się epopeją narodową, obecnie zaś jest uważany za perłę literatury i kultury, najważniejsze dzieło poety okrzykniętego „wieszczem", oraz wzór i podręcznik polskiego patriotyzmu. Na epopei Mickiewicza wychowywały się kolejne pokolenia Polaków. Obecnie uważa się, że „Pan Tadeusz" okazał się ponadczasowy; doskonale odzwierciedla on pełen sprzeczności charakter narodowy Polaków; od kłótliwości, egoizmu i warcholstwa po prawdziwy, żarliwy patriotyzm. Tu chciałbym nadmienić, że 17 lat temu, według „Pana Tadeusza" powstał równie malowniczy co tekst wspaniały film wybitnego polskiego reżysera – Andrzeja Wajdy. Obejrzałem go mieszkając poza granicami kraju, jednak tym razem nie daleko, bo w Pradze czeskiej.

## Zaczynamy cenić to co straciliśmy

Epopeja Mickiewicza – to bezpośrednia konsekwencja jego emigracji. Mamy wszelkie podstawy uważać, że poeta źle czuł się na wygnaniu we Francji. Emigracja mu doskwierała. Nie lubił Paryża pomimo wszystkich uroków tego niezwykłego miasta. Mieszkając tam, poeta żył wspomnieniami, głównie z dzieciństwa. Jak zwykł był powtarzać Sokrat Janowicz: „aby dobrze pisać – trzeba czuć się nieszczęśliwym". (Nie wiem, czy to jest jego myśl, czy kogoś innego) Tak czy owak, Mickiewicz czuł się głęboko nieszczęśliwym. Był emigrantem i uchodźcą politycznym, jakkolwiek nie zawrócono go na granicy. (Niech pamiętają o tym ci Polacy, którzy mając miliony współziomków rozsianych po całym świecie, sami nie chcą przyjąć u siebie nawet jednej rodziny uchodźców) Nie wiem, czy nieszczęście zawsze bywa inspiracją, ale gdyby Mickiewicz pozostał w rodzinnych stronach, to prawdopodobnie „Pan Tadeusz" nie powstałby w ogóle. Już w prologu Mickiewicz pisał absolutnie szczerze:

„Litwo! Ojczyzno moja! ty jesteś jak zdrowie.
Ile cię trzeba cenić, ten tylko się dowie,
Kto cię stracił. Dziś piękność twą w całej ozdobie,
Widzę i opisuję, bo tęsknię po tobie".

Pisząc „Pana Tadeusza" „na paryskim bruku", tzn. wśród gmachów i ulic wielkiego miasta, Mickiewicz już od dobrych paru lat (mniej więcej dziesięciu) nie widział stron rodzinnych. Tęsknił za nimi i każdy szczegół ojczystego krajobrazu stawał się mu droższy niźli wtedy, gdy żył tam i wychowywał się. Soczyste, żywe barwy, którymi wymalowywał utraconą Ojczyznę, oddawały stan jego ducha: wielką miłość i tragizm rozłąki z Ojczyzną.

Jak wiadomo, za swą działalność polityczną Mickiewicz przeżył 5-letnie zesłanie, jednakże nie na Sybir, lecz do Rosji centralnej, do Sankt-Petersburga, Moskwy, Odessy i na Krym. Opuścił Imperium Rosyjskie w 1829 roku i resztę swego życia spędził na uchodźstwie, początkowo w Rzymie, a później osiadając w Paryżu. W sensie materialnym, żyło mu się względnie nieźle, bo był wykładowcą w College de France. Jednak „nie samym chlebem żyje człowiek...". Właśnie tam, w Paryżu, w latach 1832-34, Mickiewicz napisał „Pana Tadeusza". Akurat, 3 lata wcześniej, sromotną klęską zakończyło się już drugie po Insurekcji Kościuszkowskiej Powstanie Listopadowe. Miało ono na celu odzyskanie niepodległości w granicach sprzed pierwszego rozbioru w 1772 roku. Skutek był odwrotny do zamierzonego; car zlikwidował nawet tę ograniczoną autonomię Królestwa Polskiego. W ramach surowych represji był zamknięty Uniwersytet Wileński w którym pobierał nauki sam Mickiewicz. Za granicę zbiegli nie tylko bezpośredni uczestnicy powstania, ale także arystokraci, u których skonfiskowano majątki. Wkrótce potem skasowana została „Unia Brzeska" oraz

oficjalnie przekreślono Statut Wielkiego Księstwa Litewskiego z 1588 roku. Rozpoczęła się depolonizacja i rusyfikacja tej spolonizowanej „Litwy". W Paryżu Mickiewicz widział i słyszał bezustanne waśnie, kłótnie i wzajemne oskarżenia wśród emigrantów na temat celowości powstania i dalszych kroków. Poeta chciał podtrzymać na duchu wygnańców, rozbudzić patriotyzm i zjednoczyć rodaków w kraju wokół idei dalszej walki o niezależność. Tu warto zwrócić uwagę na pewien istotny szczegół: w epilogu swego poematu, mając na myśli utracone resztki państwowości, Mickiewicz utożsamia się z Polską i Polakami.

„Dziś dla nas, w świecie nieproszonych gości,
W całej przeszłości i w całej przyszłości
Jedna już tylko jest kraina taka,
W której jest trochę szczęścia dla Polaka:
Kraj lat dziecinnych! On zawsze zostanie
Święty i czysty jak pierwsze kochanie".

Innymi słowy, gdy poeta ma na względzie walkę wyzwoleńczą, wówczas mówi o Polsce i Polakach i utożsamia się z nimi. Mickiewicz, o którym ciągle z naciskiem podkreśla się, że nigdy nie był on w Warszawie ani w Krakowie, czuł się obywatelem i spadkobiercą ponad 400-letniej tradycji wielonarodowej Rzeczpospolitej Obydwu Narodów. Białorusko-litewska szlachta, z której pochodził poeta, już od dawna była spolonizowana i lojalna w stosunku do Korony Polskiej, jakkolwiek zachowywała poczucie dumy z odrębnej historii tej swojej „Litwy". W usta klucznika Gerwazego Mickiewicz wkłada znamienne słowa:

„Dziwneć to były losy tej naszej Korony,
I naszej Litwy! wszak to jak małżonków dwoje!"

## „Mała Ojczyzna"

Jednakże będąc w emigracji, Mickiewicz tęsknił głównie za swą rodzinną Nowogródczyzną i marzył o powrocie do swej „małej Ojczyzny". W „Panu Tadeuszu" poeta idealizuje i sakralizuje tę utraconą Ojczyznę, i już w pierwszych słowach prologu opisuje jej piękno. Mickiewicz przedstawia Soplicowo jako „arkadię" – krainę wiecznej szczęśliwości, gdzie nie ma trosk ni problemów, a życie płynie swym spokojnym, uporządkowanym rytmem. „Mała Ojczyzna", to miejsce szczególnie ważne. Z nią u wielu ludzi związane są najżywsze wspomnienia. To może być kraj dzieciństwa, gdzie człowiek urodził się i wychowywał, poznawał świat i dojrzewał. „Mała Ojczyzna" może obejmować mniejsze lub większe terytorium. Nie posiada ona konkretnych granic, za to ma swój niepowtarzalny charakter. Odrębność, wyjątkowość tego miejsca na ziemi formują ludzie ze swą kulturą, historią, tradycjami i wierzeniami.

Te, szczególnie bliskie sercu, miejsca odgrywają mitotwórczą rolę, sprzyjają idealizacji wspomnień i wzmacniają nostalgię. „Małe Ojczyzny" bywają wielką inspiracją dla ludzi twórczych. Te wyidealizowane miejsca i czasy pozwalają oderwać się od zmiennej, niepewnej codzienności w poszukiwaniu dawnego szczęścia, prostoty, czystości moralnej i tożsamości: narodowej, etnicznej, regionalnej i obywatelskiej. Mickiewicz modli się do Matki Boskiej:

„Jak mnie, dziecko, do zdrowia powróciłaś cudem...
...Tak nas powrócisz cudem na Ojczyzny łono.
Tymczasem przenoś moję duszę utęsknioną
Do tych pagórków leśnych, do tych łąk zielonych,
Szeroko nad błękitnym Niemnem rozciągnionych;
Do tych pól malowanych zbożem rozmaitem,
Wyzłacanych pszenicą, posrebrzanych żytem;
Gdzie bursztynowy świerzop, gryka jak śnieg biała,
Gdzie panieńskim rumieńcem dzięcielina pała,
A wszystko przepasane, jakby wstęgą, miedzą
Zieloną, na niej z rzadka ciche grusze siedzą.

Sam Mickiewicz przyznawał, że w „Panu Tadeuszu" przedstawił on upiększona, mityczną krainę, która w takiej formie i postaci – nigdy nie istniała. Z drugiej strony, nie ulega wątpliwości, że tak barwnie i emocjonalnie poeta mógł zilustrować realia życia miejsca, które prawdziwie kochał, to znaczy rodzinną Nowogródczyznę. W poemacie znajdujemy dokładne opisy wnętrz dworu szlacheckiego oraz zamku, wyraziste portrety poszczególnych ludzi i grup. Z wielką miłością do swego narodu Mickiewicz ukazuje zalety i słabości życia szlacheckiego, mówi o nieuchronnej zmianie pokoleniowej, o potrzebie odnowienia moralnego oblicza narodu.

Adam Mickiewicz słusznie uważany jest za twórcę nowego kierunku w literaturze polskiej – romantyzmu. Poeta z wielką uwagą przeniknął w serce ludu, przedstawił żywy duch ludowego postrzegania świata. Prostota i naturalność chłopskiego trybu życia, wiara w tajemnicze siły natury i znaki, formowały w ludziach normy moralne i czyniły z patriarchalno-konserwatywnej tradycji – ideał życia. Ten aspekt życia poeta najwidoczniej uznawał za ważniejszy od zewnętrznych form i warunków bytowania. Pojęcie „rusałki" to bodaj najbardziej tajemnicze zjawisko w demonologii ludu. Już sam związek rusałki z wodą, lasem i polem, przynależność – zarówno do świata umarłych, jak i duchów przyrody, niepewność w stosunku do dobra i zła stwarzają wokół tych istot aurę nadnaturalności, która nie mogła nie oczarować zdolnego literata.

## Do kogo należy Mickiewicz?

Wszyscy chętnie przyznają się do sławnych, wybitnych ludzi i, słusznie albo całkiem bezpodstawnie, uważają ich za swoich. Wiele można usłyszeć o znaczeniu Mickiewicza dla Białorusi, Litwy, Ukrainy, dla krajów bałkańskich, dla tatarskiej i żydowskiej kultury. Ta ostatnia nie mogła nie wpłynąć na poetę, bo Mickiewicz pobierał nauki we Wilnie. Trzeba pamiętać, że ówczesne Wilno było prawdziwym tyglem kulturowym, gdzie ocierały się o siebie: żydostwo, białoruskość, polszczyzna, a wszystko pod czujnym okiem niedawno tu przybyłej carskiej administracji. Jednak za „swojego" uważają Mickiewicza głównie Polacy, Białorusini i Litwini.

Z szeregu białoruskich i litewskich publikacji wyziera ewidentna pokusa by przeciągnąć Mickiewicza na swoją stronę, albo przynajmniej podkreślić w nim coś swojego. Uważam, że najmniejsze podstawy traktować poetę jak „Litwina" mają właśnie Litwini. Samo zawołanie „Litwo, Ojczyzno moja" nic nie znaczy, jak też krótki, kowieński epizod w życiu Mickiewicza. Znany litewski prozaik i dramaturg – Marius Ivaskewicus oświadczył jasno i wyraźnie: „Wasz Pan i wasz Tadeusz". Ma on nawet pretensję do poety o to, że ten przedstawił „Litwę", tylko zapomniał napomknąć o Litwinach. Myślę, że to jest błędne rozumowanie. W pierwszej połowie XIX wieku, w pobliżu Nowogródka nie było Żmudzinów, etnicznych Litwinów. Chłopi byli Białorusinami, a szlachta uważała się raczej za Polaków. To białoruski folklor: obrzędy, zwyczaje, język, wierzenia i tradycje, znalazły odbicie w twórczości Mickiewicza i filomatów. „Litwę" i przymiotnik „litewski" poeta z pełnym przekonaniem odróżniał od „żmudzko-litewskiego" języka, kultury i narodu. Tymczasem dyrektor Muzeum Adama Mickiewicza we Wilnie – Rimantas Salna, bez żalu stwierdza: „Ja bardzo lubię Mickiewicza, ale nie nazwałbym go „polskim Litwinem". Myślę, że w jakim języku człowiek pisze, taką też wybiera narodowość... nie warto wnikać w niuanse genetyczne; skąd pochodził, kim był, bo przecież niektórzy mówią, że Mickiewicz miał trochę żydowskiej krwi... Dla nas to jest nieistotne". Tym nie mniej Rimantas Salna przyznaje, że Mickiewicz ożywił u Litwinów patriotyzm, był inspiracją dla litewskich literatów, nauczył szacunku do swojej Ojczyzny, ale był przede wszystkim – polskim poetą.

Tym nie mniej, świadomość narodowa i patriotyzm Mickiewicza, to rzecz niejednoznaczna. Był obywatelem Imperium Rosyjskiego. Z pewnością znał język rosyjski, jednak nie chciał w tym języku ani pisać, ani rozmawiać, bo szczerze nienawidził wszystko, co było związane z okupantami. Gdy jednak poeta udał się na emigrację, to nie mógł on posługiwać się paszportem innym niż rosyjski. W sensie językowym Mickiewicz należał do polskiego narodu, ponieważ tamtejsza szlachta już od dawna była spolonizowana i przeszła na katolicyzm. Jednak nie sposób nazywać poetę „stuprocentowym Polakiem", bo i sam on tak siebie nie określał. Mickiewicz wyznawał

miłość do ziemi, gdzie urodził się i wychowywał, gdzie ujrzał i odczuł piękno otaczającego go świata, gdzie zetknął się z kulturą ludową: świętami, zwyczajami, obrzędami, legendami, pieśniami i baśniami. Wszystko to twórczo rozwinął w szczególności w balladach, a także w dramacie „Dziady". Białoruskie, chłopskie środowisko z pewnością poznał, kiedy bywał na wiejskich kiermaszach i weselach. W swych artykułach dla „Pielgrzyma Polskiego" Mickiewicz parokrotnie nazywał ten naród, z którym po części utożsamiał się – „Białorusinami".

To pytanie: „więc czyj jest Mickiewicz?" zadałem kilku znanym Białorusinom. Uładzimir Marchiel, literaraturoznawca, poeta i tłumacz oświadczył: „Samo zawłaszczanie Mickiewicza jest jałowe. To prowincjonalne stanowisko. On należy do wszystkich... Tylko nasze zadanie polega na tym, aby postrzegać i przyjąć do wiadomości fakt jego związków z naszym narodem". Marchiel jest autorem wydanej w 2003 roku książki „Droga do Białorusi: Adam Mickiewicz – zwiastun odrodzenia kultury białoruskiej".

Badacze twórczości Mickiewicza jednoznacznie stwierdzają, że na ukształtowanie się przyszłego poety wydatnie wpłynęli: parobek Błażej, zwany „Ulissesem", który opowiadał małemu Adamowi rozmaite, białoruskie baśnie. Także służąca Gąsiewska znała wiele pieśni ludowych i chętnie je śpiewała w obecności Adama. Właśnie ci prości ludzie, podobnie jak w przypadku Aleksandra Puszkina, zaszczepili przyszłemu poecie umiłowanie folkloru. Zresztą, w jednej klasie z Mickiewiczem uczył się Jan Czeczot, przyszły białoruski poeta i folklorysta. Światopogląd ich obu kształtował się pod wpływem środowiska. Przyszły wieszcz z pewnością od najmłodszych lat znał język białoruski tamtejszych chłopów. Wg badacza twórczości Mickiewicza – Aleha Łojki, prawdopodobnie przodkowie poety byli i czuli się Białorusinami, co zresztą byłoby całkowicie naturalne.

## Bez Białorusi nie byłoby Mickiewicza?

Właśnie, Aleh Łojka uważa, że „bez Białorusi nie byłoby Mickiewicza albo byłby on kimś innym, najpewniej kimś mniejszego kalibru". „Białoruś – kraj gdzie Mickiewicz urodził się. Nowogródczyzna, to ziemia gdzie wychowywał się on i rósł. Także pierwsza nauka u nowogrodzkich dominikanów miała miejsce w Białorusi... My nie białorutenizujemy Mickiewicza, lecz po prostu stwierdzamy jego przynależność do Białorusi jako takiej, do białoruskiego narodu, kultury, literatury i historii... „Litwinizm" – to historyczny etap białoruskości, mutacja białoruskości pod wpływem polonizacji... miara białoruskości w jej specyficznej niezwykłości". Aleh Łojka pisał, że „wielki polski poeta pozostaje w jego świadomości nie tylko jako twórca arcydzieł, ale jako krajan oczarowany Białą Rusią, jej folklorem, źródlano-czystą duszą. Przestrzeń myśli

i uczuć poety bezwiednie splata się ze stronami mego dzieciństwa, napełnia się znajomymi dźwiękami, echem, pieśnią i matczyną baśnią. Właśnie tu zdarzył się cud poezji Mickiewicza".

Na pytanie – kim dla niego jest Adam Mickiewicz, znakomity poeta białoruski – Ryhor Baradulin odpowiedział: „Jest to postać unikatowa... dla mnie jest poetą zrodzonym przez ziemię białoruską. Mickiewicz spalił swe pierwsze wiersze po białorusku. Możliwe, że ja trochę przesadzam, ale powiem tak: Mickiewicz to białoruski poeta, chociaż jego wiersze są napisane po polsku. Jego postrzeganie świata, jego charakter są białoruskie... Powracałem do jego twórczości wiele razy, bo nie sposób ogarnąć ją w jeden raz. W jego liryce i balladach jest uduchowienie ojczystej ziemi i jej przyrody. Kiedy czytasz Mickiewicza, to czujesz się Białorusinem". Inny poeta – Nił Hilewicz w swym „Sonecie na cześć Adama Mickiewicza" napisał, że „jakkolwiek piórem swym przysłużył się on chwale Polski, to odwdzięczył się także krainie swego pochodzenia będąc jej wspaniałym piewcą".

## Więc dlaczego Mickiewicz nie pisał po białorusku?

To, że Mickiewicz znał język zarówno białoruski jak i rosyjski – nie ulega wątpliwości. „Ze wszystkich słowiańskich narodów, Rusini, to znaczy chłopi Pińskiej, częściowo Mińskiej i Grodzieńskiej guberni, zachowali najwięcej ogólnosłowiańskich cech... W ich pieśniach i baśniach jest wszystko... „Statut Litewski" jest napisany w ich języku, najbardziej melodyjnym i najmniej zmienionym ze wszystkich języków słowiańskich" – tak wysoko Mickiewicz oceniał język białoruski podczas swych wykładów w Paryżu. Badacze jego twórczości znaleźli w samym „Panu Tadeuszu" około 30 białorusizmów. Jak powiedział dyrektor Muzeum Adama Mickiewicza w Nowogródku Mikoła Hajba, poecie zarzucano „psucie" polszczyzny „prowincjonalizmami", jednak Mickiewicz odpowiadał, że używa ich świadomie i celowo.

Skoro Mickiewicz wykorzystywał miejscowe narzecze, skoro znał język prostego ludu, skoro kochał swoją „małą Ojczyznę", to dlaczego nie pisał po białorusku? To, że w Szwajcarii rzekomo odnaleziono wiersz Mickiewicza po białorusku, to jedynie hipoteza. To, że podobno swe pierwsze wiersze po białorusku poeta spalił, także nie zostało dowiedzione. Według Mikoły Hajby, nie wykluczone, że przy bardziej sprzyjających okolicznościach, Mickiewicz pisałby również po białorusku, ale wówczas nie było ani białoruskich czytelników ani wydawców. Na początku XIX wieku niemal całe wykształcone społeczeństwo posługiwało się językiem polskim. W tym języku wykładano w powiatowych gimnazjach i klasztornych szkołach. Po polsku uczono chłopskie dzieci w szkółkach parafialnych. W latach 1810-1820 XIX wieku znaczącym centrum polskiej edukacji była Jezuicka Akademia w Połocku, którą ukończyło

wielu uczonych, pisarzy i artystów. Sytuacja zmieniła się w 1836 roku, kiedy to carskim dekretem zakazano wykładania po polsku w Witebskiej i Mohylowskiej guberniach. W pozostałych guberniach, nauczanie po polsku odbywało się aż do czasu powstania 1863 roku. Do tego czasu wykładowcy posługiwali się programami opracowanymi przez Komisję Edukacyjną w końcu XVIII wieku.
Być może, naszej uwadze umyka pewna obiektywna przyczyna mickiewiczowskiego niepisania po białorusku. W czasach wieszcza, dla poety tej miary to było zbyt wielkim wyzwaniem. Gdyby pisał po białorusku, to byłoby raczej zmaganie się z materiałem językowym niż twórczość, gdzie przynajmniej środki są już gotowe. Być może mają rację ci, którzy twierdzą, że poeta takiego formatu nie mógłby się spełnić po białorusku. Tak, to prawda, że w swoich listach Mickiewicz kilka razy użył pojęcia „Białoruś", „białoruski", ale Białoruś w obecnym kształcie i rozumieniu – nie istniała. Pojęcia „Białoruś', „białoruski" odnosiły się przeważnie do Witebskiej, Mohylowskiej i części Wileńskiej guberni. Jeżeli zaś chodzi o „Litwę", „litewski", to pod tymi pojęciami kryła się zamieszkała przez Białorusinów Grodzieńska, Mińska i część Wileńskiej guberni. Kilkadziesiąt lat później to rozgraniczenie wyjaśnił i upowszechnił Franciszak Bahuszewicz. Kiedy żył i tworzył Adam Mickiewicz, nie było także białoruskiej gramatyki. Ponadto, w XVIII i XIX wiekach, najbardziej wykształcona, oświecona oraz inteligencka warstwa społeczeństwa zamieszkująca tereny dzisiejszej Białorusi, uważała się za Polaków, rzadziej za Rosjan, stąd dzieła najbardziej uzdolnionych Białorusinów wzbogacały przeważnie polską kulturę.

## Dlaczego Mickiewicz nie wspomina o Białorusinach?

W epilogu „Pana Tadeusza" Mickiewicz pisał:

„O, gdybym kiedy dożył tej pociechy,
Żeby te księgi zbłądziły pod strzechy,
Żeby wieśniaczki, kręcąc kołowrotki,
Gdy odśpiewają ulubione zwrotki
O tej dziewczynie, co tak grać lubiła,
Że przy skrzypeczkach gąski pogubiła,
O tej sierocie, co piękna jak zorze
Zaganiać gąski szła w wieczornej porze,
Gdyby też wzięły na koniec do ręki
Te księgi, proste jako ich piosenki!"

Skoro Mickiewicz pragnął, aby jego utwory trafiły „pod strzechy", to dlaczego w epopei zabrakło choćby wzmianki o chłopach – Białorusinach? Myślę, że z tego samego powodu, dla którego nie ma również Litwinów-Żmudzinów ani Tatarów, którzy

mieszkali w Nowogródku, bo tam istniał meczet. Prócz żołnierzy, nie ma tam również Rosjan, a powinni tam być choćby carscy urzędnicy. Jest tylko Żyd – Jankiel przedstawiony przez autora w nader pozytywnym świetle. Karczmarz jest człowiekiem uzdolnionym, a do tego – wielkim patriotą Polski. Ten mądry Żyd nawoływał skłóconą szlachtę do zgody, przynajmniej w sprawach wagi narodowej. Ukazując Jankiela jako przywiązanego do swych tradycji Żyda i jednocześnie – polskiego patriotę, Mickiewicz nie omieszkał wytknąć rodakom ich odwiecznej wady – antysemityzmu. Oto, dla przykładu, klucznik Gerwazy pogardliwie odnosił się do Jankiela i jego rad. Fakt, że w osobie Jankiela poeta tak pięknie przedstawił żydowstwo, natomiast pominął Białorusinów – jest dla mnie zagadką. Możliwe, że będąc na emigracji, Mickiewiczowi przyszli na myśl Żydzi, jako naród odwiecznych tułaczy. Być może, Mickiewicz darzył Żydów sympatią, albo wręcz ich podziwiał, że jako naród tułaczy, pozbawieni swej Ojczyzny, umieli oni wspaniale przystosować się do każdych warunków. Niewykluczone, że ta sympatia do Żydów wynikała z poczucia więzów krwi poety z tym narodem. Tak czy owak, to są jedynie przypuszczenia.  Tym nie mniej, laureat Nagrody Nobla – Czesław Miłosz też zadaje pytania: „A dlaczego nie ma w epopei chłopów? A w jakim języku oni rozmawiali?

Według mnie, Mickiewicz napisał w swej epopei co chciał i jak chciał. Utwór napisał i wydał poza granicami Imperium Rosyjskiego, więc nie musiał się liczyć z carską cenzurą. (Ta natomiast dosięgła pierwszy białoruskojęzyczny przekład Dunina-Marcinkiewicza) Mickiewicz nazwał swój utwór „Szlachecka historia z 1811 – 1812 roku w dwunastu księgach wierszem". Poeta adresował swą epopeję nie do białoruskiego, ale polskiego czytelnika. Dlatego przedstawił nie chłopskie, lecz szlacheckie środowisko, bo akurat szlachta w największym stopniu uosabiała polski patriotyzm i wierność tradycji. Wybór okresu wojen napoleońskich także był uzasadniony, bo wojna z Rosją była szansą na wyzwolenie Polski z niewoli. Mickiewicz wyraźnie przedstawił się jako patriota i spadkobierca już nieistniejącego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Zresztą, jedną z pierwszych stolic Księstwa był Nowogródek.

Tu przypomnial mi się epizod z 2003 roku. Wówczas, Sokrat Janowicz otrzymał z rąk prezydenta Aleksandra Kwaśniewskiego nagrodę imienia Andrzeja Drawicza. Członek jury, znany intelektualista i działacz społeczny – Jacek Kuroń w swym wystąpieniu uzasadnił wybór laureata nagrody w następujący sposób. „Jestem przekonany, że twórczość pisarza, poety, publicysty i wydawcy – Sokrata Janowicza, ma dla świadomości narodowej współczesnych Białorusinów, oraz dla sprawy zbliżenia Białorusinów i Polaków – wielkie znaczenie. Chcę podkreślić, że na białorusko-polskim pograniczu narodziło się i rodzi się wiele talentów. Wspomnę choćby o Adamie Mickiewiczu, dla którego białoruskie tradycje ludowe, były nadzwyczaj ważne.  Rozpoczynając „Pana Tadeusza" od słów „Litwo, Ojczyzno moja", pisał on o całym Wielkim Księstwie

што ў календары хіба можна было б друкаваці:
ўсё злыя і вострыя. Пан быў калісьці дастатні,
ды бацькаўскі спадак усенькі і маёнтак братні,
усё прапусціў, на шырокім гуляючы свеце.
Ён дужа любіў паляванне, ці то для забавы,
ці, можа, пры голасе трубкі і відзе аблавы
ізноў яму прыпаміналісь гады маладыя,
як меў і нямала стральцоў і сабакі ліхія.
Цяпер два харты засталіся ва ўсім тым багацці,
да йшчэ за адным не хацелі тут славы прызнаці.
Дык зблізіўся й, гладзячы зводьна свае фаварыты[76],
прамовіў з усмешкай, а быў то смяшок ядавіты:
„Ну, хорт без хваста – то што шляхціц які без ураду,
бо хвост памагае харту у разгоне адзаду,
а пан уважаеш, што Курта сабака больш ходкі?
Давай, калі так, запытаемся ў Вашае цёткі.
Хоць пані Тальмена жыла у сталіцы далёка
й нядаўна у нашай ваколіцы, быстрае вока
яе лепш за моладзь спазнайца часамі:
сама бо навука памалу прыходзе з гадамі".

Тадэй, на якога зваліўся так неспадзяваны
той гром, усхапіўся й стаяў напачатку змяшаны
ды толькі страшно узіраўся і быў ужо скоры...
Аж раптам, на шчасце, чыкнуў два разы Падкаморы.
„Віват!" – усе крыкнулі; ён пакланіўся у меру
ды пальцамі зводьна званіў у сваю табакеру.
Із золата то ж табакера, з брылянтаў аправа,
ў сярэдзіне быў жа партрэт караля Станіслава[77];
ягонаму бацьку самім каралём даравана,
па бацьку цяпер Падкаморым ганорна трымана.
Ў яе зазваніўшы, даў знак, што хацеў прамаўляці.
Замоўклі усе і не смелі нат губ адкрываці.
Ён кажа: „Вяльможная шляхта, браты, дабрадзеі!

76 Фаварыты – бакі (Б. Т.).

77 Станіслаў Панятоўскі – апошні польскі кароль (Б. Т.).

Суды паляўнічым – у пушчы й дзе луг зелянее,
дык тутака дома падобных я спраў не рашаю,
паседжанне наша на заўтра таму адкладаю,
і рэплік старон ужо будзе сягоння даволі.
Гэй, Возны, адклікай жа справу на заўтра на поле.
А заўтра і Граф з паляўнічымі ўсімі прыедзе,
ды вырушыш з намі і Ваша[78], Суддзя, мой суседзе,
і пані Тальмена, паненкі й паважныя пані,
ну, словам, мы зробім вялікае тут паляванне;
й пан Войскі ж адзін не захоча застацца ля дому".
Так кажучы, ён падаваў табакерку старому.

А Войскі на шэрым канцы выдзяляўся суровы.
Ўсё слухаў, заплюшчыўшы вочы, без воднага слова;
хоць моладзь не раз дабівалась ягонага здання[79],
бо гэтак, як ён, то ніхто так не знаў палявання, –
маўчаў ён. Табакі нюшок з табакеркі ўхапіўшы,
між пальцамі важыў і думаў, урэшце зажыўшы,
чыхнуў, аж усенька ізба̀ разлягалася рэхам,
й казаў, галавой патрасаючы, з горкім усмехам:
„Ох, як жа мне сумна, старому, не да апісання!
Бо што ж тут старыя мысліўцы[80] сказалі бы сяння,
пабачыўшы, як над хартовым хвастом столькі шляхты,
паноў адпраўляюць суды, укладаюць каншахты?[81]
Райтан[82], каб ажыў бы і з намі стары апыніўся,
вярнуўся б у Ляхавічы зноў і ў гроб палажыўся!
А што бы сказаў Несялоўскі, стары ваявода[83],
што гончых трымае найлепшага ў свеце завода
і дзвесце стральцоў аж дагэтуль абычаем панскім

78 Ваша, вашэць, вашэця – старабеларускія звароты да паважаных асоб.

79 Зданне (польск.) – меркаванне.

80 Мысліўцы (польск.) – паляўнічыя.

81 Каншахты (польск.) – закулісныя перагаворы, махінацыі.

82 Райтан Міхал – вядомы на Навагрудчыне паляўнічы (XVIII ст.).

83 Граф Юзаф Несялоўскі, апошні навагрудскі ваявода, быў старшынёй рэвалюцыйнага ўрада ў час паўстання Ясінскага (А. М.).

і мае сяней сто вазоў у дварэ варанчанскім[84],
а столькі гадоў, як манах, ён сядзіць сабе ў хаце
й не можа ніхто дапрасіцца яго паляваці,
нат Белапятровічу й то не шчадзіў ён адмовы[85]!
Бо што ж на такіх паляваннях на вашых за ўловы?
Ці ж слаўна было бы, каб пан такі важнага роду
пакваліўся на шаракі, на сягонняшню моду!
Калісьці, мой пане, лічыліся ў мове стралецкай
дзік, лось ды вядзмедзь або воўк зверыною шляхецкай,
а звер без клыкоў, без рагоў, капцюроў пакідаўся
для слугаў для платных і чэляддзю дворскай страляўся;
ніводзін жа пан не узяў бы той стрэльбы паганай
у рукі, што дробным шаротам была набіванай!
Хартоў то трымалі, бо так: як вярталісь з аблавы
ды выскача бедны зайчына, тады для забавы
за ім уздагонку хартоў тыя смычы пускалі
й малыя панічыкі зайцаў па коніках гналі
ўваччу прад бацькамі, якія ледзь-ледзь прыглядацца
хацелі пагоні такой, а не то, каб спрачацца!
Дык Яснавяльможны мой пан Падкаморы, скасуйце
загады свае, калі ласка, й старому даруйце,
што я не паеду на гэтае ўжо паляванне,
нага мая тамака з вамі ніколі не стане!
Завуся Грачэха, а ад караля таго леха[86]
за зайцамі, пэўне, ніводзін не ездзіў Грачэха".

Тут моладзь у смех, заглушыла і Войскага мову.
Ўставалі. А першы устаў Падкаморы і знову,
такі яму гонар і з веку і ўраду належа,
ішоў у паклонах для дамаў, старых, маладзежы.

84 Варонча – вёска на Навагрудчыне (цяпер Карэліцкі раён), калісьці багатая рэзідэнцыя Несялоўскіх. У варанчанскім двары было мноства сетак для асочвання звяроў у час палявання.

85 Ежы Белапятровіч, апошні пісар В. Кн. Літоўскага, актыўна ўдзельнічаў у паўстанні Літвы пад кіраўніцтвам Ясінскага. Ён судзіў дзяржаўных злачынцаў у Вільні. Дзеяч, вельмі паважаны ў Літве за свае дабрачыннасці і патрыятызм (А. М.).

86 Лех – легендарны заснавальнік польскай дзяржавы, брат Руса і Чэха. Выражэнне „ад караля Леха" адпавядае ўсходнеславянскаму „ад цара Гароха".

За ім жа і квестар, а Суддзя пры самым барнадыне;
руку пры парозе падставіў ён Падкамарыне,

Тадэвуш падаў Талімене, Асэсар Крайчанцы,
а Рэент урэшце даў Войскай руку, Грачашанцы.
Тадэвуш з гасцьмі некаторымі йшоў да стадолы,
а чуўся ён нейкі змяшаны ды злы й невясёлы.
У думках разважываў дзень той, здарэннямі рэдкі:
дзіўное спатканне, вячэра пры боку суседкі;
найгорай жа гэтае „цётка" яму каля вуха
зырбела ды так надаедліва, горай, як муха.
Хацеў жа Тадэвуш у Вознага лепш распытацца
аб пані Тальмене, шукаў і не мог з ім спаткацца;
не бачыў і Войскага, бо па вячэры ён зараз
пайшоў за гасцьмі: меў вялікі амбарас[87]
гатовіць пакоі хутчэй у двары для спачынку.
Старэйшыя й дамы то спалі у дворным будынку,
а моладзь сказалі Тадэвушу весці на сена,
бо, ведама, летам па сене праспацца не дрэнна.

Так праз паўгадзіны ў двары не чувацца ні духа,
бы ў кляштары, после званення на пацеры, глуха,
і ціш прарываў толькі голас начное старожы.
Паснулі усе. Сам Суддзя ісці спаць шчэ не можа:
спадарства ўсяго правадыр, ён у поле мазгуе
паход і у доме на заўтра забаву плянуе.
Загады дае аканомам, вайтам і гуменным,
стральцам, пісарам, ахмістрыні, урэшце, стаенным;
як кончыў у дзённых рахунках усіх разглядацца,
сказаў тады Вознаму, што ўжо пара разбірацца.
Паяс адвязаў яму Возны ўжо, слуцкі, ўвесь літы[88],
густыя блішчэлі пры ім кутасы, бытта кіты,
на полі з парчы залатое – пурпурныя краскі,

87 Амбарас – клопат (Б. Т.).

88 Слуцку была фабрыка залатога шыцця і літых паясоў, славутая на ўсю Польшчу і ўдасканаленая стараннем Тызенгаўза (А. М.). Міцкевіч тут недакладны: А. Тызенгаўз заснаваў фабрыку паясоў у Гродна; слуцкая ж належала Радзвілам, удасканаліў жа яе ў сярэдзіне XVIII ст. Я. Маджарскі.

навыварат – чорны ядваб пасярэбраны, ў краткі;
пояс такі можна насіць на старонкі на обе,
парчу залатую на свята, а чэрню ў жалобе.
Сам Возны умеў той пояс адвязаць і злажыці,
ды, робячы гэта, канчаў ён вось так гаварыці:

„Ну, што тут благога, што вынес сталы я ў замчышча?
Не страціў на гэтым ніхто, толькі Пан можа зышча,
за гэты ж бо замак цяперака точыцца справа.
Тым часам ад сёння да замку набылі мы права[89]
й, нягледзь на старонкі праціўнай заядласць,
ўзялі відавочна замчышча ў сваю падуладнасць.
Бо хто запрасіўшы у замак гасцей на вячэру,
відацца, што ўласнасць тут мае і добрую веру.
Праціўную нават старонку мы возьмем у сведкі:
я помню, калісьці бывалі здарэнні во гэткі".

Суддзя ўжо спаў. Тады Возны ціхутка у сені,
пры свечцы прысеўшыся, кніжачку ўзяў із кішэні,
казаў бы святу́, без якой абысціся не мог жа,
якой не кідаў ані дома, ані ў падарожы.
А гэта была „трыбунальска ваканда"[90]; там радам
стаялі спіса̀ныя справы, што перад урадам
ён сам сваім голасам вызваў калісь прад гадамі,
або што даведаўся іншымі после шляхамі.
Каму дык ваканда здавалася б прозвішчаў спісам,
а Вознаму важных, вялікіх малюнкаў нарысам.
Чытаў і раздумываў Возны: Агінскі з Вызгірдам,
Тут з Рымшаю дамініканцы, а ён з Высагірдам,
з Радзівілам пан Верашчака, Гедройць з Радултоўскім,
з кагалам жа пан Абуховіч, Юрага з Пятроўскім,

89 Войскі наладзіў вячэру ў замку не выпадкова: тым самым Сапліцы набывалі юрыдычнае права па гэту пабудову.

90 Ваканда, вузкая, прадаўгаватая кніжачка, у якой запісвалі прозвішчы цяжабных асоб у парадку разгляду справаў. Кожны адвакат і возны павінен быў мець такую ваканду (А. М.).

Малескі з Міцкевічам[91], Граф і Сапліца ў канчатку.
Чытаючы прозвішчы гэтыя ўсе па парадку,
прыводзіў на памяць працэсаў прабег і наследкі;
стаяць прад вачмі яго суд, і старонкі, і сведкі;
і сам сябе бача прад тым трыбуналам прад цэлым
у контушы сінім, у гожым жупане у белым,
на шаблю руку палажыў, а другой падзывае
старонкі к сталу й „Супакойцеся!" ўсіх заклікае.
У думках канчаючы пацеры, гэтак памалу
заснуў той апошні ўжо Возны Літвы трыбуналу.

Вось так на Літве і забавы і спрэчкі вяліся
у дворнай цішы. А на свеце шырокім ліліся
ракамі і слёзы і кроў, калі муж той, празваны
што богам вайны, цэлай цьмою палкоў спамаганы,
гарматамі збройны, арлы залатыя і срэбны
запрогшы ў сваю калясніцу[92], пад Альпы пад небы
аж з-пад пірамідаў ляцеў і грымеў перунамі
у Табар, Марэнго, у Ульм, Аўстэрліц. За арламі
ішлі Перамога й Захват. А вялізная слава
дзядоў і герояў кацілася з гукам і жвава
ад Ніла на поўнач, аж тутка пры беразе Нёмна
адбілася, як бы ад скал, ад стаяўшых нязломна
маскоўцаў, Літву бараніўшых жалезнай сцяною
прад весткаю тэй для Расіі, як пошасць, страшною.

А ўсё-ткі не раз навіна, бытта камень той з неба,
злятала ў Літву. Не раз дзед, папрашаючы хлеба,
жабрак без рукі ці нагі, падаянку пабожна
прыняўшы, ўставаў і наўкола глядзеў асцярожна.
Калі ж у двары не пабачыў расейскіх жаўнераў,
ярмулак, ані паліцэйскіх чырвоных каўнераў,
тады прызнаваўся па праўдзе, кім быў: лег'яністым,

91 У гэтым пераліку названы сапраўдныя працэсы (напрыклад, Рымшы з дамініканцамі) і надуманыя, дзе аўтар выкарыстаў прозвішчы сваіх знаёмых і сяброў (напрыклад, Ф. Малеўскага).

92 Тут і далей гаворка ідзе пра ваенныя паходы „бога вайны" Напалеона Банапарта. „Залатыя зімы" – эмблемы французскіх войск, „сярэбраныя арлы" – польскіх.

прыносіўшым косці старыя у край свой айчысты,
балей ваяваці не могшы... А як жа бывала,
сям'я тады панская й чэлядзь яго абымала
з няўстрымлівым плачам! А ён, за сталом там сеўшы,
расказваў гістор'і, за казкі старыя дзіўнейшы.
Казаў, як стараецца слаўны ваяка Дамброўскі
з зямлі італьянскай у край свой сцягнуцца у польскі
і як сабірае сваіх на Ламбардскім ён полю[93];
казаў, як Князевіч загады дае з Капітолю
і кінуў, здабыўшы ў баёх ад патомкаў цэзараў,
у вочы французаў ён сотню крывавых штандараў[94];
і як Ябланоўскі забег, аж дзе перац зрастае[95],
дзе топіцца цукер ды вечна вясна дзе трывае
й пахучы лясы зеляніць; з легіёнам Дунаю
ваяка там мурынаў б'е, а ўздыхае да краю.

А гутаркі старца кружылі далей пакрыёму;
хлапец, толькі тое пачуў, прападаў раптам з дому;
лясамі, балотамі перакрадаўся таёмна,
ўцякаючы ад Маскалёў, ён кідаўся да Нёмна
й, нырнуўшы, на бераг Варшаўскага княства прачаліў,
а там яго міла ужо як калегу віталі;
аднак на адходзе ўсаскоча на ўзгорак з камення
і крыкне маскоўцам праз Нёман: „Ну, да пабачэння!"
Вось так Межаеўскія, Пац, Гедымін, Абуховіч,
Пятроўскі і Купсць, Абалеўскі, Ружыцкі, Яновіч,
Гарэцкі, браты Барнатовічы й іншых нямала[96],

93 Ламбардская раўніна ў паўночнай Італіі (Б. Т.).

94 Генерал Князевіч, высланы італьянскай арміяй, склаў перад Дырэкторыяй здабытыя ў баі сцягі (А. М.).

95 Князь Ябланоўскі, які камандаваў Наддунайскім легіёнам, памёр на Сан-Дамінга, дзе загінуў амаль увесь легіён. У эміграцыі засталося некалькі ветэранаў, якія ўцалелі ад таго няшчаснага паходу, паміж іншымі – генерал Малахоўскі (А. М.).
Заўвага Міцкевіча не зусім дакладная. Генерал Ул. Ябланоўскі камандаваў на Сан-Дамінга не польскімі легіёнамі, а французскай наўбрыгадай. Легіянеры ж, якіх французскі ўрад выкарыстаў у сваіх каланізатарскіх мэтах, спачатку знаходзіліся пад французскім камандаваннем, і толькі потым каманду над імі прыняў К. Малахоўскі.

96 Называюцца сапраўдныя прозвішчы.

украдкам праз Нёман праплыўшы, туды паўцякала:
бацькоў і любіму зямельку сваю пакідалі,
а маемасць іхную ў царску казну забіралі.

Часамі ў Літву і далёкі квастар заблуджаўся
й, як толькі з панамі двара ён бліжэй спазнаваўся,
газету паказываў ім, адпароўшы з шкаплераў[97].
Стаяла напісана тамака лічба жаўнераў
і прозвішча кожнага правадыра легіёну,
апісана кожнага дзень перамогі ці скону.
Праз толькі гадоў першы раз прынадзіла навіна
ў сям'ю аб жыцці ды аб славе і смертухне сына:
жалобаю дом пакрываўся, сказані ж не смелі,
па кім та жальба; аднак дагадацца умелі
ў ваколіцы, бо у паноў то журба тады гэта
і радасць ціхая былі, як адзіна газета.

Такім патайным квастаром быў Чарвяк той, казалі,
і часта асобна з Суддзёю яны размаўлялі.
Па гутарках гэтых заўсёды якіясь навіны
ішлі па суседству. З манаха фігуры і міны
відалася: не заўсягды ў каптуры ён мадзеўся
і не у кляшторным муры барнадын састарэўся.
Ён меў над скіўіцаю правай, над вухам, ад раны
ў далонь шырынёю пісогу скуры разадранай
і у барадзе свежы след ад кап'я ці пастрэлу,
а нельга тых ран прыпісаці пабожнаму дзелу.
Не толькі паглёд яго грозны і ран зарубцоўкі,
а голас і рух нешта мелі з ваеннай муштроўкі.

Пры ймшы, калі ён да народу звяртаўся з рукамі,
паднятымі ад алтара, каб сказаці: „Бог з вамі!" –
то часта так спрытна паверне, бывала,
як „права у тыл" яму нейка каманда сказала,
і слова літург'і такім выгаварываў тонам
к народу, як той афіцэр прад сваім эскадронам:

97 Шкаплер (польск.) – ладанка.

заўважылі гэта хлапцы, што прыслужвалі до мшы.
Чарвяк і у справах палітыкі болей знаёмшы
быў, як у святых жыціёх; калі ж ездзіў па квесце,
то застанаўляўся ён часта ў паветавым месце.
Паўнюсенька меў інтарэсаў: то пісьмы забраці,
якіх не любіў пры чужых і зусім адкрываці,
то слаць пасланцоў, але дзе і на што, невядома;
бывала, ўначы вымыкаўся і сам пакрыёму
да панскіх двароў і са шляхтай няспынна шаптаўся,
наўкола па вёсках усіх акалічных таптаўся
і часта у корчмах з сялянамі правіў нямала
аб тым, што падзеі ў старонках чужых закранала.
Цяпер і Суддзю, што заснуў не далей ад гадзіны,
прышоў разбудзіць: пэўне, мае якія навіны.





# XVIII Трыялог

## Сімпазіён „Літва, мая Айчына!”

### Каўказская сінагога ў Крынках, 2 верасня 2017

# XVIII Trialoh

## Sympozjon „Litwo! Ojczyzno moja!”

### Synagoga Kaukaska w Krynkach, 2 września 2017

## частка I / część I

## ЛІТАРАТУРА / LITERATURA

*Лявон* Тарасэвіч:

Ад імя *Вілы Сакратас* шчыра вас усіх вітаю на чарговым Трыялогу ў памяць Сакрата Яновіча „Litwo! Ojczyzno moja”. Witam serdecznie gości, którzy przyjechali i są razem z nami. Wiem nawet, że Mirek Bałka nie mógł być, a sercem jest z nami. I pani minister Omilanowska, której ojciec był tu chrzczony w kościele, a urodził się cztery kilometry stąd. Таксама сябры са Швецыі сюды прыехалі. Думаю, што сённяшні дзень, каторы тут пераажывем, у гэтых трох дыскурсах, якія павядзе наш сябра Хрыстафор Чыжэўскі з Пагранічча (я ўжо не знаю – то аддзельная дзяржава хіба). Так што будзе вельмі цікава і ўсіх запрашаю. Прашу воплескі.

*Krzysztof* Czyżewski:

Drodzy Państwo, rozpocznę kontynuując podziękowania Leona w imieniu organizatorów. Chcę tylko dodać, że organizatorem tego naszego spotkania jest Fundacja

Villa Sokrates w Krynkach, współorganizatorem Muzeum Podlaskie w Białymstoku. Partnerami Urząd Miasta Krynki, Gminny Ośrodek Kultury w Krynkach, Białoruskie Centrum Informacyjne. Natomiast dofinansowano spotkanie ze środków Narodowego Centrum Kultury w ramach programu Narodowego Centrum Kultury Kultura – Interwencje 2017, zrealizowano dzięki Ministrowi Spraw Wewnętrznych i Administracji, a wystawę w ramach XVIII Trialogu dofinansowano ze środków Ministerstwa Kultury i Dziedzictwa Narodowego oraz przy wsparciu finansowym Województwa Podlaskiego. Annus Albaruthenicus 2017 zostanie wydany dzięki finansowemu wsparciu Fundacji PKO Banku Polskiego, natomiast inni sponsorzy to „Krynka" i „Browareg". No i patronaty medialne: „Gazeta Wyborcza", Białoruskie Radio Racja, Polskie Radio Białystok.
To podziękowanie tym, którzy pomogli zorganizować to spotkanie, a ja już Państwa bardzo serdecznie witam w Synagodze Kaukaskiej w Krynkach. I od razu mi przychodzi na myśl taki fragment z „Traktatu poetyckiego" Czesława Miłosza: „Za trudny dla nas chyba ten Mickiewicz. Gdzież nam do pańskiej, żydowskiej nauki". Czy jest za trudny? Przekonamy się dzisiaj. Dla nas ten Mickiewicz w każdym razie jest inspiracją, a punktem wyjścia do debat dzisiejszego dnia jest inwokacja: „Litwo! Ojczyzno moja!" Mam nadzieję, że Państwo się nie spodziewacie tutaj debaty, która rozstrzygnie, czyja jest ta Litwa, i w ogóle – czyj jest ten Mickiewicz ostatecznie. Ale wiemy wszyscy, że te debaty i te rozmowy się toczą co najmniej od czasu, kiedy Mickiewicz napisał w Paryżu „Pana Tadeusza", czyli od 1834 roku. I to jak rozumiano potem tę inwokację i co miał na myśli sam Mickiewicz, to są często bardzo różne, osobne światy. Ale nie sposób zaprzeczyć faktowi, że i ta inwokacja, i dzieło Mickiewicza inspirowało bardzo różne postawy, tropy myślenia, ruchy, w tym narodowo-wyzwoleńcze czy niepodległościowe na naszych pograniczach. Dość tylko wspomnieć, że zakazany za czasów sowieckich, ale od uzyskania przez Litwę niepodległości hymn narodowy Vincasa Kudirki to jest tylko transformacja tej inwokacji. Z „Litwo! Ojczyzno moja!" Kudirka uczynił „Litwo! Ojczyzno nasza!" i to jest dzisiaj hymn narodowy Litwy. Ale za tym hasłem stoi cała litewska tradycja niepodległościowa. Podobnie jest na Białorusi. I pytanie: „Czyj ten Mickiewicz", na pograniczach cały czas bardzo silnie rozbrzmiewa. Śledziłem przez moment debatę, zainspirowaną tekstem w mińskim piśmie „Zwiazda", chyba w 2015 roku, kiedy ukazał się artykuł o tym, do jakiego stopnia nasz białoruski jest Mickiewicz i żeby się o niego na Białorusi upominać. Więc różne są konteksty tego zagadnienia, ale wydaje mi się, że powinno nas interesować szczególnie to, co inspiruje w dalszym ciągu nasze myślenie i postawy. I dzieło Mickiewicza, i tradycja Wielkiego Księstwa Litewskiego na nowo cały czas jest odczytywana w kulturze, literaturze, w polityce. Myślę, że warto, abyśmy ten czas z patronatem Sokrata Janowicza właśnie poświęcili tym pytaniom i tym refleksjom, na ile to nas

dzisiaj inspiruje, na ile stawia nam ważne pytania wobec rzeczywistości, w której jesteśmy zanurzeni. Nasz trialog będzie miał trzy cykle debat, w kolejności: literacką, historyczną i – po przerwie obiadowej – kulturową. A gośćmi naszymi będą historycy, artyści, pisarze, ludzie kultury zarówno z Białorusi, jak i z Polski. Ale to, że powiedziałem, że z Białorusi i powiedziałem, że z Polski, to nie powiedziałem o tożsamości narodowej, powiedziałem o krajach czy państwach, z których przybywamy i mamy w związku z tym różne obywatelstwa. A jak kto siebie definiuje i jak buduje i określa swoją tożsamość, myślę, że to też będzie częścią naszej rozmowy. Bo często robimy to właśnie w odniesieniu do tych obywateli Wielkiego Księstwa Litewskiego, którzy stanowią część naszej tradycji. Mam nadzieję też – a jeżeli jest inaczej, proszę zasygnalizować to od razu – że wszyscy będziemy siebie rozumieli, że ci z Państwa, którzy mają problem albo z językiem polskim, albo z językiem białoruskim, w których toczyć się będą nasze debaty, mają słuchawki. Rozumiem, że będziemy mieli przekład symultaniczny. Ludmiło, Ty masz słuchawki, dobrze. Drodzy Państwo, więc pozwólcie, że przedstawię uczestników naszej debaty literackiej. Jest z nami Ludmiła Rubleuskaja z Mińska – witamy bardzo serdecznie, która jest pisarką, laureatką państwowej nagrody literackiej Białorusi i nagrody imienia Franciszka Bahuszewicza, a też finalistką nagrody imienia Jerzego Giedroycia, którą się na Białorusi przyznaje za najlepszą książkę prozatorską roku. Pisze powieści, ale też książki dla dzieci. A na co dzień żyje z pracy dziennikarskiej. Nie jest jeszcze tłumaczona na język polski, ale mam nadzieję, że to jest tylko kwestia najbliższej przyszłości, że książki pani Ludmiły Rubleuskiej będziemy mogli czytać po polsku. Jest z nami Katarzyna Sawicka-Mierzyńska – witamy bardzo serdecznie – literaturoznawczyni, pracowniczka Uniwersytetu w Białymstoku, zajmująca się literaturą współczesną, w tym bardzo silnie literaturą regionalną Podlasia. Inicjowała konferencje i wydawnictwa poświęcone Sokratowi Janowiczowi, jest więc tutaj, na Trialogu w Krynkach, u siebie w domu. No i jest z nami Radosław Romaniuk – bardzo serdecznie witamy – który w Krynkach też jest chyba u siebie. Jego prace historyczno- i krytycznoliterackie zakreślają szeroki horyzont: od Tołstoja po Jarosława Iwaszkiewicza, o którym napisał bardzo ciekawą biografię. Jako redaktor zajmował się też dziełami i korespondencją Kota Jeleńskiego, Miłosza, czy Mycielskiego. Tak że w tym gronie, drodzy Państwo, zaczniemy rozmowę o „Litwo! Ojczyzno moja!" w kontekście literackim. Pierwsze pytanie kieruję do Pani Ludmiły: jak Białorusini rozumieją mickiewiczowską inwokację? Czy współczesna Białoruś potrzebuje Mickiewicza?

*Людміла* Рублеўская:

Пачаць трэба, відаць, з тых праблем, з якімі на сённяшні дзень сутыкнуліся беларусы, з уяўленнямі саміх сябе, з праблемамі самаідэнтыфікацыі. Для

нас на сённяшні дзень, прынамсі для пісьменнікаў гісторыяцэнтрычных, беларускацэнтрычных вельмі важна стварэнне прыймальнага беларускага нацыянальнага міфу, гэта значыць уяўлення пра беларусаў, пра нейкага абагуленага беларускага нацыянальнага героя. На сённяшні дзень гэты міф дасюль не выпрацаваны. Больш за тое – ён вельмі дэфармаваны, таму што стагоддзямі беларусам навязваўся вобраз такога тыповага беларуса як мужыка – пан сахі і касы, чалавек малаадукаваны, сялянскі, – які не мае ніякага дачынення да той гісторыі, якая апісваецца ў гістарычных раманах. І, уласна кажучы, нават калі я вучылася ў школе, то гісторыя Беларусі пачыналася практычна з 1917 года і мне даводзілася самой шукаць тады звесткі па гісторыі, таму што мне хацелася ведаць, што я належу да супольнасці, што я належу да народу, які не горшы за іншых. І калі я чытала кнігі Дзюма, Вальтара Скота, Генрыка Сянкевіча ў школе, то я, як і іншыя, думала: во як здорава, як цікава было б, чаму ў нас нічога падобнага не было. І вось паступова дзякуючы Уладзіміру Караткевічу і іншым пасіянарыям, якія працавалі на беларускую гісторыю, я пачала разумець. А ў нас жа таксама ўсё гэта было, мы не на выспе жылі. Гэта еўрапейскі народ, гэта еўрапейская краіна, мы частка еўрапейскай гісторыі і таксама ўсё ў нас было. Варта толькі пашукаць. І я адшукала, але ўсё-такі вельмі шмат яшчэ белых пляма, вельмі шмат яшчэ трэба пераадольваць стэрэатыпаў. Нават калі пачаўся фармавацца беларускі нацыянальны міф у часы адраджэння пачатку XX стагоддзя, усё роўна там былі вельмі выразныя дзве плыні яго фармавання. Адна, такая народніцкая, аплакваючая. Вось той самы мужык беларус няшчасны, забіты, якога трэба ратаваць. Але з'явілася паралельна і рамантычная плынь, там, дзе ўсё-такі было вялікае жаданне мець героя, якім можна ганарыцца. Для мяне прыклад міфа знешняга паходжання пра беларусаў, так бы мовіць, калі Мікалай Някрасаў, расейскі паэт-народнік, апісаў у сваёй паэме высакарослага хворага беларуса, які працуе на пабудове чыгункі. І гэты вобраз літаральна стаў увасабленнем беларуса на цэлыя стагоддзі. З каўтуном у валасах, такі няшчасны, у лахманах. Паралельна ў гэты ж час Міцкевіч стварае вобраз Пана Тадэвуша. І для нас вельмі важна, каб вобраз стэрэатыпны, няшчаснага беларуса ў лахманах, які нічога свайго не мае, ён усё-такі адыходзіў, усё-такі пан Тадэвуш быў таксама і нашым героем. І гэтая барацьба паміж дзвюма плынямі стварэння беларускага нацыянальнага міфу, яна працягваецца і па сёння. Беларусам дасюль даказваюць, што вы такія талерантныя-талерантныя, вы павінны кагосьці слухацца, вы павінны прымаць чужое, таму што свайго то ў вас не выпрацавана. А сваё ўсё роўна ёсць. І я вельмі шмат пішу артыкулаў па гісторыі

беларускай літаратуры, па гісторыі ўвогуле. Ёсць у мяне такі цыкл эсэ „Рыцары і дамы Беларусі". Мая задача – стварыць прымальны нацыянальны міф, у якім было б тры складнікі, якія лічу неабходнымі. Гэта рыцарская Беларусь, перыяд Вялікага Княства Літоўскага, гэта інсургенцкая Бела русь, гэта ўсе тыя паўстанні, якія адбываліся на нашай тэрыторыі, гэта рэпрэсаваная Беларусь, часы сталінскіх рэпрэсій, дзе цэлы пантэон герояў, пра якіх можна пісаць. Кожны з гэтых складнікаў дае цэлы пантэон герояў, процьму сюжэтаў. І вось пасля кожнага артыкула я атрымліваю каментарыі: а чаму вы пра гэта пішаце, якое гэта адносіны мае да нас? Хаця гэта адбываецца там, у Бабруйску, у Слоніме, у Мінску. Усё роўна, калі гэта князь, калі гэта адукаваны чалавек, шляхціц, уяўленне ў людзей, што гэта ўжо як бы не зусім наш. Ну, як жа – вось у нас мужык павінен быць. Даходзіць да абсурду – я прыводжу прыклад, што калі скажам дзяўчынкі сялянскія, прыгонныя са Шклоўшчыны, Азарэвічы, пакуль яны жылі ў хатцы курнай, яны беларускі – усё правільна. Як толькі яны трапляюць у прыдворны тэатр, калі яны прайшлі адукацыю ў шклоўскім тэатры і сталі зоркамі санкт-пецярбургскай сцэны, яны ўжо нібыта перасталі быць беларускамі, яны ўжо вось расейскія балерыны, як пішацца. Дзе логіка? Дык вось, Адам Міцкевіч вельмі важны складнік; тое што ён стварыў, вобразы, якія ён стварыў для самаідэнтыфікацыі беларусаў, у гэтай рамантычнай плыні, у гераічнай плыні. Я скажу, што і тут ёсць праблемы, што не адчуваюць таксама беларусы сваёй датычнасці да гэтага. І калі я пісала сваю сагу – выйшла чатыры раманы „Авантур Пранціша Вырвіча" – дзеянне якой адбываецца ў XVIII стагоддзі, я выводжу двух на мой погляд тыповых беларусаў. Адзін збяднелы шляхцюк, навучэнец мінскага езуіцкага калегіюма Пранціш Вырвіч, і доктар Баўтрамей Лёднік, палачанін, алхімік, выпускнік двух еўрапейскіх універсітэтаў, які робіцца слугой гэтага юнага Пранціша. На мой погляд, тыповыя беларусы. І ўзнікла, канешне, пытанне, як іх называць, як яны самі сябе ў той час ідэнтыфікуюць. А мая ж задача менавіта ствараць беларускі міф. Мае героі ўвесь час падкрэсліваюць, што яны не рускія, не палякі, яны называюць сябе ліцвінамі. Але сітуацыя атрымалася такая, што кнігі мае прадназначаны для шырокага кола, я хацела, каб іх чыталі людзі нават тыя, каму першы раз можа ўвогуле патрапіцца кніга беларуская і датычная беларускай гісторыі. Называць толькі Літва, ліцвіны, гэта было проста абсалютна нерацыянальна і небяспечна, таму што такія людзі, яны проста не супаставяць гэта з сучаснай Беларуссю. Таму я параілася з культуролагамі, з гісторыкамі, і ў мяне паралельна ідуць два тэрміны: ліцвіны і беларусы. І мову, на якой яны гавораць, яны таксама называюць

беларускай. Ну, мастацкі твор, ён мне дазваляе пайсці вось на некаторыя такія гістарычныя нацяжкі.

*Krzysztof* Czyżewski:
Czyli rozumiem, że staranie pisarki, takiej jak Pani we współczesnej Białorusi, to stworzenie mitu narodowego białoruskiego, który odnosi się do tych tradycji, nawet jeszcze sprzed Wielkiego Księstwa Litewskiego. Ale też wiem, że inna Pani książka, o stalinowskich prześladowaniach na Białorusi otrzymała nagrodę Bahuszewicza, więc i ten etap wchodzi w budowanie tożsamości i mitu białoruskiego. I jest ten „Pan Tadeusz" wasz-nasz, czyli inaczej niż u Mariusa Ivaskieviciusa, litewskiego pisarza, który jest przywoływany w eseju wprowadzającym do naszego spotkania, który śmiało powiedział: „Ani Pan nie nasz, litewski, ani Tadeusz nie nasz". Weźcie go sobie, to znaczy my robimy teraz swoje w Litwie, na nowo i od siebie. Czyli jest w jakimś sensie i ten „Pan Tadeusz" wasz-nasz. Moje kolejne pytanie byłoby takie: czy białoruskość budowana dzisiaj, w tradycji o której tu mówimy, czy to jest taka litewskość dawna, to znaczy czy dzisiaj mówiąc „Białoruś! Ojczyzna moja", obejmujemy obywatelstwo, czy raczej narodowość? Czy to jest etniczne, czy to jest obywatelskie albo kulturowe?

*Людміла* Рублеўская:
Ведаеце, французскі мысляр Рэнан казаў, што нацыя – гэта штодзённы рэферэндум, гэта значыць, што кожны дзень у супольнасці адбываюцца працэсы, дыскусіі, якія вызначаюць, што будзе далей. Па-гэтаму я не вазьму на сябе смеласці сказаць, ці вернецца тэрмін ліцвіны замест беларусаў. Магчыма, што і не, таму што пад назвай „беларусы" таксама, выбачайце, зрабілася ўжо столькі, што гэта выкрасліць проста злачыннасць. І я думаю, што сапраўды вызначыць вось гэты штодзённы рэферэндум, вызначыць гісторыя. А я ўвогуле падзяляю погляд вядомага нашага акадэміка і гісторыка Адама Мальдзіса, які казаў, што немагчыма такія постаці, як Адам Міцкевіч, і такія ўтварэнні, як Вялікае Княства Літоўскае, прыўлашчваць камусьці аднаму. Гэта абсурд, гэта неразумна, гэта ясна. Тым не менш тэрмін ліцвіны свядомым беларусам – я лічу – ён дарагі.

*Krzysztof* Czyżewski:
Dziękuję bardzo. Panie Radosławie, jak to jest z Pańskiej perspektywy, ten Mickiewicz, czy on się nam dzisiaj może wydawać trudnym?

*Radosław* ROMANIUK:

Bardzo się cieszę, że zaczął Pan od cytatu z Miłosza: „za trudny dla nas ten Mickiewicz", bo on jakoś ustawia nie tylko rozumienie Mickiewicza, ale w ogóle rozumienie literatury. Pojmowanie literatury jako zadania. Za trudne zadanie dla nas ten Mickiewicz, musimy jakoś do niego doskoczyć, musimy się tego nauczyć. Bo literatura jest zadaniem. I chyba nie jest to zadanie, które powinien rozwiązać naród, tylko zadanie indywidualne, postawione przed czytelnikiem. Jest zadaniem egzystencjalnym. Tak to rozumiem, tak to widzę i myślę, że tutaj ten początek jest rzeczywiście fenomenalny. „Za trudny dla nas ten Mickiewicz", więc musimy coś z tą trudnością zrobić, jakoś ją pokonać. I też zaczynamy Trialog od dyskusji literackiej, która jest chyba okazją do najbardziej szerokiego postawienia tytułowego problemu „Litwo! Ojczyzno moja!" Historycy będą mieć ten problem jakoś akademicko zawężony. „Litwa" to jest Wielkie Księstwo Litewskie, w opozycji do „Korony". „Litwa" to jest też twór państwowy określony tą nazwą. A my mamy jeszcze jakby trzecie znaczenie tego słowa, bo przecież Mickiewicz był poetą. „Litwo! Ojczyzno moja!" nie rozpoczyna dokumentu, który jest deklaracją polityczną, ale rozpoczyna poemat. I to jest słowo użyte w języku poezji. Więc trafiamy na trzecie znaczenie „Litwy", znaczenie, które jakoś wkracza na teren znaczeniowy „Arkadii", jakiegoś miejsca mojego, własnego. W tym sensie – i w sensie literatury pojmowanej jako zadanie – taką „Litwę" ma każdy z nas. Znajduje się w bardzo różnych miejscach, bardzo różne są tam krajobrazy. „Litwę" Mickiewicza możemy zrozumieć właśnie dzięki własnemu doświadczeniu, dzięki temu, że każdy z nas dotknął ziemi w pewnym miejscu planety i pewne zapachy, krajobrazy, doświadczenia nas kształtują. Mickiewicz miał też swoją „Litwę" i oczywiście nie znalazł jej w miejscu przypadkowym. Więc w tym sensie właściwym jest mówienie o Mickiewiczu w kontekście białoruskim, bo to jest to miejsce. Pozwolę sobie na małą dygresję. Miłosz, który mam wrażenie, że dzięki panu Krzysztofowi Czyżewskiemu będzie drugim oprócz Mickiewicza patronem naszych rozmów, napisał taki znakomity wiersz „Do Tadeusza Różewicza poety". Był koniec lat czterdziestych i wiersz mówił o świecie, który wita poetę, bo poeta nadaje temu światu znaczenie, ujmuje go w słowa. Świat przygotowuje się do tego, by pojawił się w nim poeta i żeby coś o tym świecie powiedział.

Zgodne w radości są wszystkie instrumenty
Kiedy poeta wchodzi w ogród ziemi.
Czterysta rzek błękitnych pracowało
Na jego narodziny i jedwabnik
Dla niego snuł błyszczące swoje gniazda.
Korsarskie skrzydło muchy, pysk motyla
Uformowały się z myślą o nim

I wielopiętrowy gmach łubinu
Jemu rozjaśniał noc na skraju pola.
Więc się radują wszystkie instrumenty
Zamknięte w pudłach i dzbanach zieleni
Czekając aby dotknął i aby zabrzmiały.

Oczywiście skierowanie tego wiersza do Różewicza było wspaniałą intuicją dotyczącą miary przyszłego poety, ale złą intuicją, jeśli chodzi o charakter jego pisarstwa. To nie był ten poeta, za którego Miłosz go chciał uważać. To był poeta, na którego nie czekały rzeki, tylko czekały stare kobiety, czekały śmietniki, czekał świat cywilizacji, której jeszcze nie było. On wypowiedział świat stworzony przez człowieka, a nie przez Boga. Natomiast ten wiersz znakomicie opisuje pewną rolę, którą przyjął Mickiewicz, pisząc „Litwo! Ojczyzno moja!" i kreśląc obrazy „Pana Tadeusza", obrazy, które – musimy powiedzieć – są obrazami jednak nie realistycznymi, tylko obrazami poetyckimi. W tekście, który był takim tekstem przewodnim, mogliśmy przeczytać, że właściwie w tym uniwersum „Pana Tadeusza" nie ma białoruskich chłopów. Ja bym dodał, w uniwersum „Pana Tadeusza" Jankiel jest postacią, jakiej właściwie nie miało prawa być, bo poeta uczynił go takim super Polakiem. To jest tekst poetycki, to jest tekst, który z realizmem nie ma nic wspólnego i który stanowi po prostu pewne zadanie dla nas, dla naszego rozumienia rzeczywistości.

*Krzysztof* Czyżewski:

Bardzo się cieszę, że Pan podkreślił właśnie tę poetyckość inwokacji i w ogóle słowa Mickiewicza, bo rzeczywiście to jest tak, że jak poetyckość wchodzi w politykę, to ona ma wtedy rażącą moc, tylko daleko odbiegającą od samego kontekstu środowiska, z którego powstawała. I rzeczywiście mnóstwo nieporozumień bierze się właśnie z nakładania się tych dwóch światów, które mówią innymi językami czy są z innej rzeczywistości. Można się zastanawiać, dlaczego ten „Pan Tadeusz" nie jest wielokulturowy, w tym sensie nie ma tam chłopów białoruskich, ale nie ma też Tatarów, nie ma tej Nowogródczyzny, jaką ona w realistycznym sensie właśnie pogranicznym była. Ale rzeczywiście odniesienie jest inne i też pamiętajmy, że inwokację pisze się jak w Homerowej „Iliadzie" czy jak w „Jerozolimie Wyzwolonej" Tassa; to się zawsze zaczyna od inwokacji do Boga, do bóstwa, do czegoś, co nie jest z racjonalnego świata. I teraz przyłożyć to do kategorii realistycznych, to jest zupełnie inna szkoła. Czyli ta trudność, myślę, przynajmniej u Mickiewicza polega na tym, że on obejmuje coś znacznie szerszego i coś z innego porządku, niż roztrząsywanie tego w kategoriach narodowych, politycznych...

*Radosław* Romaniuk:

Jest tak, jakby nie do końca zasadne było pytanie: a gdzie to było? Kim byli ci ludzie? Też mówiliśmy o tym, że nie będziemy dzisiaj rozstrzygać, czy Mickiewicz był Polakiem, Białorusinem czy Litwinem. Przede wszystkim, dlatego że to byłoby bardzo niepoetyckie. Te wszystkie rozważania są właściwie na antypodach tego, kim był Mickiewicz.

*Katarzyna* Sawicka-Mierzyńska:

Może nie *ad vocem*, ale jako komentarz. Powiedzieliście, że właściwie nie ma wielokulturowości w „Panu Tadeuszu". Ja twierdzę, że ona tam właśnie jest obecna, i to bardzo, bo wtedy w ogóle nie było czystości etnicznej, narodowej. Dla Mickiewicza tożsamość zastana, doświadczana była czymś wieloszczeblowym, więc trudno mówić o ukazywaniu wielokulturowości, bo nie było odrębności takiej ścisłej, etnicznej, narodowej. Dla mnie w tym tkwi bogactwo Mickiewicza i to, jak my się możemy nim teraz inspirować. Kiedy on mówił o sobie jako o Litwinie czy o Polaku, to myślał o swoistej mieszance kulturowej. Kojarzymy też ten czas z Herderem i takim już nowoczesnym myśleniem o narodzie, który jest całością kulturową, obsługiwany jest ten naród przez konkretny język. Ale te koncepcje nie obejmują bogactwa ówczesnych doświadczeń i tożsamości.

Zastanawiali się badacze nad tym, czy Mickiewicz pisał po białorusku, czy mówił. Na pewno rozumiał. Przecież Jan Czeczot mówił do niego wierszem białoruskim. I on ten wiersz rozumiał. Sądzę, i to jest nieuniknione, bo jesteśmy dziećmi naszych czasów i operujemy przypisanymi im kategoriami, że często nakładamy je też na tamtą rzeczywistość. Myślenie o narodzie było wtedy inne, Mickiewicz myślał o narodzie w kategoriach politycznych, dla niego punktem odniesienia była Rzeczpospolita Obojga Narodów. To się też bardzo zmieniło po Powstaniu Listopadowym, bo na początku, zobaczcie – ojczyzna Mickiewicza to wyłącznie Litwa, którą właściwie powinniśmy nazywać regionem, Nowogródczyzną. To jest to zamieszanie semantyczne, o którym Pani mówiła: Litwa nam się kojarzy teraz z państwem litewskim. I czy to będzie „Grażyna", czy to będzie „Konrad Wallenrod", Mickiewiczowi chodzi o Litwę, dopiero po powstaniu zaczyna się myślenie kategoriami polskości: Litwa pojawia się w komunii, unii, małżeństwie – on tak ładnie to nazywa – z Polską. Ale wcześniej chodzi o Litwę jako taką. Daliśmy się tutaj troszkę zwieść recepcji Mickiewicza, która pojawiła się po powstaniu, a potem wzmocniła ją między innymi Maria Janion; gdzie na przykład mówiło się: „Konrad Wallenrod" to są maski, Zakon to jest Rosja, a Litwa to jest Polska i tu wyłącznie o to chodzi. Nie. Mickiewiczowi chodziło właśnie o Litwę i o to, jak ona była na różne sposoby kolonizowana. Jemu na odrębności tej Litwy – kulturowo: Białorusi (nie umiem precyzyjniej

określić tej relacji – historyczna Litwa była z jednej strony polonizowana, z drugiej podlegała wpływom ruskim) – zależało. I to jest niesamowite, że my z niego wszyscy: i Białorusini, Litwini i Polacy. Od pewnego momentu to nie jest kwestia rywalizacji, tylko w jego myśleniu jesteśmy właśnie tacy, bratersko pomieszani.
A co więcej, wszystko zaczynało się od konkretnego miejsca, dlatego też Mickiewicz jest świetnym patronem wszelkich regionalizmów. Tutaj będę bazowała na cytatach, bo uważam, że poeci i artyści mają więcej, mądrzej i ładniej do powiedzenia, niż ja. Jest więc jeszcze trzeci patron tego naszego myślenia i rozmowy – jego duch wisi nad nami – czyli Sokrat. I on dosłownie ustanowił tę paralelę, nawet między Krynkami a Nowogródczyzną Mickiewicza. Tutaj tylko jeden cytacik, bo było tego więcej; w „Terra incognita Białoruś". Sokrat pisze tak: „Znalazłszy się jako uczeń technikum w Białymstoku chorobliwie zatęskniłem za Krynkami, przypłaciwszy to początkami gruźlicy. Odkryłem nieprzeczuwany wcześniej paradoks małej ojczyzny. Tkwiąc w niej, nie lubi się jej. Przydaje się więc oddalenie. Nareszcie rozumie się poetę i jego słowa „Litwo! Ojczyzno moja, ty jesteś jak zdrowie". I zobaczcie – on to mówi w kontekście małej ojczyzny, Krynek, tego miejsca najbliższego. Tak jak Mickiewicz, kiedy mówi „Litwa", zaczyna od Nowogródka, Wilna, od miejsca, ludzi, białoruskich piastunek, lokalnych obrzędów. To jest jego miejsce. Potem oczywiście zaczyna się wielka polityka, bo on politykiem też był, nie zapominajmy o tym: zakładał legiony, pisał w gazecie, można powiedzieć, że walczył na różnych frontach. Ale zaczyna się od miejsca i myślę, że to jest bardzo ładna paralela, która buduje nam relacje między Krynkami a Litwą, która rzeczywiście, tak, jak mówicie, należy już do przeszłości.
Co więcej, my bardziej chcemy wierzyć poetom niż historykom, bo historia jest bardzo skomplikowana, są w niej rozgrywki polityczne, jakieś konflikty. Za poetami idzie mit. I my tego mitu łakniemy. Co więcej – skoro ta Litwa, o której mówimy, jest bytem należącym do przeszłości (zresztą prowokacyjnie dość w samej przedmowie do „Konrada Wallenroda" Mickiewicz pisał: „Litwa jest już całkiem w przeszłości"), możemy zrobić z nią, co chcemy. Prawda jest do naszej dyspozycji. I na bardzo różne sposoby ją wykorzystujemy. Ale warto wracać do Mickiewicza, pamiętając o tym, że pytanie o narodowość w tym kontekście jest rodzajem anachronizmu, bo to była, jak już mówiłam, tożsamość wieloszczeblowa, w której – kiedy myślało się o Rzeczpospolitej Obojga Narodów – mieściły się przeróżne nacje, języki, religie, etnosy[1]. To było „my" Mickiewicza. I to, uważam, może być dla nas wspaniałą inspiracją, także (a może zwłaszcza) tu, w naszym regionie, na Podlasiu. Mam nadzieję, że za chwilę będę miała okazję powiedzieć o tym, jak ważna to jest tutaj tradycja; to niesamowite, ilu artystów, poetów się do Atlantydy Wielkiego Księstwa Litewskiego odwołuje.

1 W tych rozważaniach nawiązuję do ustaleń Danuty Zawadzkiej zawartych w książce: Lelewel i Mickiewicz. Paralela, Białystok 2013.

*Krzysztof* Czyżewski:

Myśmy nie pytali o narodowość Mickiewicza, ale próbowaliśmy właśnie odnaleźć inne niż narodowe konteksty dla inwokacji. Ciekawe wydaje mi się to, czy ta Litwa, tak jak Mickiewicz by chciał, jest już całkiem w przeszłości? To rozumienie litewskości wydaje mi się ciągle bardzo żywe i świeże, mickiewiczowskie i aktualne. I trudno ją zakopać właśnie w przeszłości. I to jest w ogóle ciekawe, dlaczego nas tak bardzo pasjonuje rozpatrywanie jak Mickiewicz rozumiał litewskość i to jak jego „Litwę" rozumiemy w tym świecie, w którym obecnie żyjemy. Ale to, co powiedziałaś o jego odniesieniu do małej ojczyzny, do określenia swojej tożsamości czy odnajdywania jej właśnie w kontekście *genius loci*, jest niezwykle ważne i trudne. To jest, wydaje mi się, ta kolejna aporia, którą u Mickiewicza znajdujemy, bo myśmy pogubili te swoje małe ojczyzny, zaczęliśmy się odnajdować w większych narracjach, państwowych, narodowych. Nam tego bardzo brakuje i warto tutaj przywołać duch Sokrata Janowicza. Pani Ludmiła mówiła o braku, z perspektywy białoruskiej, mitu właśnie, budującego współczesną wspólnotowość białoruską. Mówiliśmy też o tym, że gdybyśmy dzisiaj zmienili inwokację na „Białoruś! Ojczyzno moja!", to wskazywałoby to na fakt, że wreszcie mamy swoją państwowość, mamy swoją narodowość, i możemy w ten sposób wyrazić również swoją etniczność. Rozumiem, że odpowiedź Pani Ludmiły jest taka, że ta Białoruś ma być rozumiana tak jak mickiewiczowska Litwa, to znaczy obejmująca obywatelstwo i różnych ludzi żyjących dzisiaj w Białorusi, również tych Tatarów, którzy ciągle żyją na Nowogródczyźnie.

*Людміла* Рублеўская:

Увогуле, калі ўспомніць тэорыю Самуэля Ханцінгтана, гэта вядомы сацыёлаг, філосаф, то Беларусь знаходзіцца на цывілізацыйным разломе. Сапраўды, усе прыкметы гэтага ёсць паміж цывілізацыяй заходняй і візантыйскай, праваслаўнай, расейскай. На нашай тэрыторыі сапраўды можна сустрэць прыкметы і той, і іншай цывілізацый. Былі перыяды дэмакратыі, былі перыяды абсалютызму. Я калісьці аналізавала, як выглядае нацыянальны міф не толькі беларускі. Ну, вельмі ўмоўна, канешне. У маім уяўленні, скажам, польскі нацыянальны міф гэта вертыкаль, гэта гісторыя, гонар роду, гэта памяць продкаў. Натуральна, гэта ўсё літаратурнага паходжання міфы; я не гісторык, я літаратар, для мяне ўсё праз прызму літаратуры. У расейскай літаратуры гэта гарызанталь, прастора, гонар сваімі адлегласцямі неверагоднымі. Беларусь паміж гэтай вертыкаллю і гарызанталлю атрымліваецца на скрыжаванні. Беларусь гэта сапраўды скрыжаванне культур. Беларусь гэта месца, дзе прайшліся мабыць усе войны Еўропы. І тут не толькі былі страты, але тут яшчэ сустракаліся культуры. Таму, праўда, на нашых землях заўсёды была

шматканфесійнасць, шматкультурнасць. Вось якраз і ў сваім цыкле я гэта таксама паказваю. Я лічу, што гэта важна; важна таксама для ўсведамлення, што такое Беларусь. У мяне дзейнічаюць героі розных нацыянальнасцей, і я паказваю, што ўсё-такі ў аснове беларускай ментальнасці – здольнасць ужывацца з іншымі. Людзі розных канфесій выходзілі на адзін пляц па святах, дзе быў рынак. Стаялі там царква, касцёл, сінагога, мячэць. І ўсе былі суседзямі, выходзілі на адзін пляц. І гэты складнік, канешне, нельга ніякім чынам выкрэсліваць. Дарэчы, нагадаю, што габрэі, якія паходжаннем з нашых тэрыторый, называліся літвакі. І Міцкевіч якраз для мяне каштоўны вось гэтым сваім паэтычным складнікам, апаэтызаваннем, скажам, таго ж возера Свіцязь. Бескарысна і шкодна сапраўды высвятляць, кім ён сябе лічыў, кім яго можна называць. Тут трэба мысліць іншымі катэгорыямі, больш універсальнымі. Міцкевіч апаэтызаваў Беларусь, і за гэта мы яму вельмі ўдзячны. Я ж кажу, што паралельна знешняму міфу і ўнутранаму міфу пра беларуса як забітага мужыка, Міцкевіч у той жа самы час ствараў рамантычны вобраз, рамантычны міф. Нацыянальнасць яго мы вызначаць не будзем, гэта абсурд. Але гэты вобраз ёсць. І ён прывязаны і да нашай зямлі, вось за гэта Міцкевічу мы ўдзячны.

*Krzysztof* CZYŻEWSKI:

Panie Radosławie, nawiązując do spotkania kultur, o którym mówiła Pani Ludmiła, chciałbym odnieść się do wspomnianego przez Pana Jankiela, który ma w „Panu Tadeuszu" bardzo ważny głos i to taki, który stawia do pionu patriotyzm i troskę o ojczyznę. Czyni to Żyd, karczmarz, cymbalista. I to, co mnie interesuje, i o co chciałbym Pana spytać, to sytuacja, w której możemy być dumni, że mamy różnorodność kultur i szczycić się tym, że każda kultura ma swoje bogactwo i mówi swoim głosem. To taki swoisty festiwal wielokulturowości, na którym każdy wychodzi na scenę i opowiada swoim językiem swoją tradycję. Natomiast u Mickiewicza jest inaczej. Przypomina mi się sytuacja w dzisiejszych Stanach Zjednoczonych, gdzie Amerykanie chodzą na film „I'm Not Your Negro" („Nie jestem twoim Murzynem"), który jest filmem o Jamesie Baldwinie, Afroamerykaninie, znakomitym pisarzu, który stawia patriotyzm amerykański do pionu, ale on postawił to trzydzieści lat temu, był takim Jankielem, który powiedział: jeżeli nie rozwiążecie naszego problemu, to będziecie pogrążali się w upadku i za chwilę rządził wami będzie taki Trump. Amerykanie uważają, że on przepowiedział to, czego obecnie jesteśmy świadkami. Interesuje mnie właśnie ta obecność innego, nie musimy mówić w kategoriach narodowościowych, na co zwracała uwagę Katarzyna, ale mówimy o innym, który jest pośród nas, inności, która właściwie buduje wspólnotowość, to znaczy dopełnia i domaga

się odpowiedzialności za jej całość. To wołanie Jankiela o patriotyzm nieprzypadkowo wychodzi ze strony tego innego, bo to jest dokładnie sytuacja, w której możemy poczuć, że wspólnotowość rodzi się poprzez głos innego. Teraz bym powiedział: Białorusina, Żyda, Afroamerykanina, ale nie w ograniczonej do wąskiego kręgu odbiorców audycji dla mniejszości narodowych w telewizji czy radiu, tylko w mainstreamowej debacie o tym, co dla nas, wszystkich obywateli tego kraju najważniejsze. Czyli mówię o takiej obecności mniejszości czy innego, który wchodzi do wspólnej i większościowej narracji. Pamiętam taką debatę tutaj na Trialogu, kiedy rozmawialiśmy o roli mniejszości białoruskiej w ogóle w Polsce, która nie miałaby się ograniczać do tego czy innego „okienka" dla mniejszości narodowej. Jak Pan na to patrzy, Panie Radosławie?

*Radosław* ROMANIUK:

Jankiel w „Panu Tadeuszu" na pewno reprezentuje kulturę liczącą kilka tysięcy lat. Kulturę, która przeżyła doświadczenie niewoli, przeżyła wiele innych doświadczeń. I rzeczywiście mówi on tym Sarmatom: opamiętajcie się! Sarmatom, którzy właściwie zachowują się w jego optyce jak dzieci. Niepaństwowo, niedojrzale, młodzieńczo; oni się po prostu bawią. To jest jedna rzecz, którą można tutaj zauważyć. O drugiej rzeczy troszeczkę nawet boję mówić. Nie jestem zbyt dobrym adresatem pytania o Jankiela, bo tej postaci właściwie nie lubię. Uważam, że Mickiewicz skłamał, rysując Jankiela i skłamał w sposób dosyć koniunkturalny, w dobrej wierze. Spróbujmy tę postać porównać z Żydem z „Wesela" Wyspiańskiego, który pojawia się dokładnie w takiej samej roli – jako „inny" wśród społeczności, która też jest niejednorodna – ale jednak on jest całkowicie w kontrze. I u Wyspiańskiego ta postać mówi: Ja się z wami nie bawię, mam zupełnie inne spojrzenie na rzeczywistość i mam do tego prawo! A wy możecie mnie nie lubić. Na słowa Pana Młodego o tym, że „jesteśmy przyjaciele", odpowiada właśnie: „tylko my jesteśmy tacy przyjaciele, co się nie lubią". Nie chce żadnej sielanki, na wesele przychodzi właściwie dla córki, którą pociąga ten typ poezji, a on sam jest na polskość i sarmackość całkowicie immunizowany. Natomiast Jankiel jest Żydem, którego może całkowicie zaakceptować polski antysemita, który uważa, że Żyd powinien mówić ładną polszczyzną, być wspaniałym patriotą. Przypomnijmy, że jest on emisariuszem, że w tamtą okolicę przyniósł „Mazurka Dąbrowskiego". I z pewnością te starania zasłużyłyby na uznanie antysemity, bo to w końcu on powinien kultywować „Mazurka Dąbrowskiego", a nie my, bo my to mamy we krwi... Krótko mówiąc: nie jest to postać realistyczna. To wyobrażenie kogoś, kto może się podobać w gruncie rzeczy, ale jeśli się nad tym głębiej zastanowić, to podoba się nam dlatego, że nie daje mu się prawa do bycia innym. Przepraszam, że to mówię, bo mam wrażenie, przewraca to trochę naszą narrację o tym jak w Soplicowie jest

